PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 15 (2083) Год XLI Беласток 14 красавіка 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

# Хай святло Хрыстовага Уваскрэсення засвеціць нам усім у нашых сэрцах

**Размова з галавой Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы ВАСІЛІЕМ.**

— **Ваша Блажэнства, якая сёння сітуацыя Праваслаўнай Царквы ў Польшчы?**

У міжваенны час наша Царква налічвала каля пяці мільёнаў людзей, пасля вайны засталося больш-менш мільён. Усіх цэркваў у нас 450, у шасці епархіях.

Наша Царква бедная, голая і абабраная, адышлі ад яе землі і будынкі. Яна абапіраецца толькі на народзе. Вы гляньце, 60 цэркваў збудавалі, цяпер 30 новых канчаем. Гэта ўсё людскія ахвяраванні, мазалі. Самі бачыце, якія новыя прыхадскія дамы, аж страшна падходзіць, здаецца па крайняй меры які ваявода жыве, або іншы пан. Гэта добра сведчыць аб нас. І святар жыве як чалавек, і ёсць месца, каб дзяцей вучыць ці сход сарганізаваць. А колькі могілак, надмагільных помнікаў прыведзена ў парадак. Гэта вялікая справа, якую ўзяў на сябе народ Божы. Калі мяне замежнікі пытаюцца, адкуль бярэш грошы, я адказваю: у мяне Хрыстоў банк. Толькі што капітал у ім — жывыя людзі.

Маем таксама пэўныя цяжкасці. У Яблачыне мусілі закрыць семінарыю, бо не было сродкаў на яе ўтрыманне. Цяпер у нас семінарыя (пасля ліцэя) у Варшаве, таксама вышэйшая школа — Хрысціянская тэалагічная акадэмія. Няма ў нас будынкаў для гэтых устаноў, а патрэбны яшчэ педагагічны інстытут. Чакаем ужо пяцьдзесят гадоў на будынак пры саборы Марыі Магдаліны, дзе калісьці быў інтэрнат. Маем надзею, што дачакаем. Можа Супрасль палепшыць нашае становішча.

— **Чаму, на Вашу думку, справа Супраслі так доўга цягнецца?**

— Дзяржава нам сваю маёмасць аддала, пацвердзілі гэта тры міністры: Ракіта, Стронк і цяпер Мілер. Толькі не пастаўленая яшчэ кропка над „і". Не замёр канфлікт між праваслаўнымі і каталікамі. Для нас Супрасль — гэта гістарычная святасць, але і каталікі кажуць: мы там былі і не аддамо, будзем рабіць экуменічны цэнтр. Але хто будзе вокны ўстаўляць, двор падмятаць, хто будзе гаспадаром? Мы на такую развязку не пагадзіліся, я звярнуўся да Канферэнцыі польскіх біскупаў і да папы рымскага, каб яны нам у канцы канцоў гэты манастыр маральна адпусцілі. Я спаслаўся на словы Яна Паўла II, што Праваслаўная і Каталіцкая Цэрквы гэта дзве сёстры, а сёстрам нягожа цягацца па судах. Таксама папа казаў: „дзве Цэрквы, як двое лёгкіх, мусяць аддыхаць разам дзеля стварэння еднасці". Я напісаў: вы маеце лёгкія, а мы не, дык як жа мы можам дыхаць? Многа каліцкай маёмасці знаходзіцца ў руках Каталіцкай Царквы і мы не збіраемся патрабаваць яе назад. Няма там ужо нашых людзей, аддаем гэта вам. Але ў Супраслі будуецца наша царква. Добра было б там сарганізаваць духоўную школу, школу рэгентаў, псальмістаў, царкоўнага жывапісу, іканаграфіі, наладзіць вытворчасць прадметаў царкоўнага ўжытку, як хаця б рызаў. Я думаю, што Канферэнцыя польскіх біскупаў зразумела нашу пазіцыю і пасля маёй просьбы прыняла прыхільнае нам рашэнне. Біскуп Тадэвуш Перонак і папскі нунцый арцыбіскуп Юзэф Кавальчык сказалі, што моляцца, каб нарэшце Супрасль была ў добрых руках. Там, Бог дасць, сарганізуем і экуменічны асяродак, дзе будзем сустракацца і дыскутаваць аб усім важным для нашай бацькаўшчыны — Рэчы Паспалітай.



*Мітрапаліт Васілій і архіепіскап Сава.* Фота В. АНДРАЙЧУКА

— **Другая не да канца аформленая справа, гэта Палявы ардынарыят Польскага Войска. У народзе такое адчуванне, быццам каталіцкая большасць не згадзілася на зраўнанне ў правах праваслаўных.**

— Не, тут недаразуменне. Мы атрымалі магчымасць сарганізаваць ардынарыят, які сваёй апекай абымае не толькі чынную службу, але і запас, і сем'і вайскоўцаў. Цяпер нам трэба свайго вайсковага епіскапа. Уладыка Сава прыняў на сябе дадатковы абавязак — ён малады, энергічны. Калі ён будзе назначаны вайсковым епіскапам, атрымае генеральскі чын. Каб уладыка Сава згадзіўся стаць вайсковым, ён захавае цяперашнія правы, епархію. Трэба было б тады ўшанаваць аўтарытэт яго духоўнага сану і ў адзежы, бо ў нас цяпер святары часта ходзяць без падрызніка, але гэта архірэю не выпадае. Як пры Андэрсе быў уладыка Сава (Саветаў) у званні генерала брыгады, то хадзіў у духоўнай вопратцы, толькі на шапцы і на палярыне меў генеральскія адзнакі. Такой развязкі трэба было б шукаць і цяпер. Калі вайскоўцы захочуць, дык дадуць генерала, а калі не, то ўладыка застанецца так, як і дагэтуль. Пакуль не знойдзем архірэя.

— **У вас частыя кантакты з каталіцкімі іерархамі. Ці ёсць розніца ў міжканфесійных адносінах на Беласточчыне і ў Варшаве? Ці ў сталіцы іншы экуменічны дух, пра які так многа чуем ?**

— Экуменізм, гэта перад усім, каб адзін аднаго паважаў. Мы ўжо пераcталі сварыцца, але на гэтым і затрымаліся. Сварыліся адны і другія, а кола сваркі затрымаў папа Ян XXIII. Такую ж палітыку вёў Павел VI; таксама сёння Ян Павел II — славянін, паляк, інтэлігентны, даравіты чалавек — вялікую ўвагу надзяляе экуменізму. Гэта не значыць, што мы адразу станемся ад-

*(Працяг на стар. 5)*

*Спакойнага і радаснага Велікоднага святкавання ўсім чытачам жадае рэдакцыя „Нівы"*

## Пасхальнае пасланне

**Яго Праасвяшчэнства, Высокапраасвяшчэннага Савы, Архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага**

— на стар. 9

# Мы прачыталі

*Na wsi samogon to część ludowej tradycji przekazywanej z ojca na syna. Każda z bimbrowniczych rodzin zazdrośnie strzeże własnej receptury. Zacier przygotowuje się w 25-litrowych bańkach do mleka lub parnikach do ziemniaków. W mieście ludzie eksperymentują: robią bimber z win owocowych, ryżu, dla smaku rozgotowują skórki od grapefruita i pomarańczy. Za litr czystej wódki w sklepie trzeba zapłacić co najmniej 24 zł. Wyprodukowanie litra bimbru o mocy 60 proc. kosztuje (nie licząc robocizny) ok. 3-4 zł.*

*Gazeta Wyborcza, nr 67*

Пахне брагай у лясах Беласточчыны, значыць, Вялікдзень блізка.

* * *

*Чалавецтва ідзе ў адным напрамку — сацыялістычным, — так ахарактарызаваў свае погляды на развіццё грамадства старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі.*

*Голас Радзімы, н-р 11*

Безумоўна, гэта асабліва відаць у Мінску і Гаване.

* * *

*Białoruski parlament poparł ideę wszechstronnego zbliżenia z Rosją. Tekstu porozumienia białoruscy parlamentarzyści nie widzieli. Wcześniej niż białoruscy deputowani mógł poznać projekt porozumienia z Rosją prezydent Kwaśniewski. 31 marca zorganizowano w Mińsku mityng społecznego poparcia dla polityki Łukaszenki. „Spontanicznych uczestników" kilka dni wcześniej wyznaczono w zakładach pracy całej Białorusi. Każdemu obiecano po 45 tysięcy rubli oraz dzień wolny od pracy. Od rana dziesiątki autobusów zwoziły demonstrantów, którym organizatorzy wręczali transparenty z hasłami „Nie — dla nacjonalistów".*

*Polityka, nr 14*

* * *

*Fenomen typowo polski, że partie, których posłowie w Sejmie Rzeczypospolitej stanowią prawa, są w gronie niekwestionowanych liderów łamania prawa.*

*Wprost, nr 12*

Законы існуюць для таго, каб іх абыходзіць. А гэта можа найлепш зрабіць толькі той, хто іх добра ведае, або хто іх сам для сябе стварае. Глядзі: льготы ад падаткаў за дараваную маёмасць!

* * *

*Biją na przerwach, napadają pod szkołą, zabierają pieniądze, kurtki, buty, wymuszają haracz. To wszystko w szkołach. Placówki oświatowe stały się miejscem brutalnej agresji, rytualnego dręczenia młodszych.*

*Gazeta Wyborcza, nr 73*

Замест „катэхетаў" лепш было б прыняць на працу ў школах паліцыянтаў.

* * *

*To wielka zagadka dziejowa, że Białoruś jeszcze istnieje. W ciągu wieków nieustannie była gnębiona przez Moskwę i Polskę. Dlaczego Białoruś nie zniknęła przez 200 lat rusyfikacji i polonizacji? Nie zginęła dlatego, że przez cały czas istniała konserwatywna masa chłopska, która zachowała kulturę narodową, tradycję, język, folklor i obyczaje. W latach dwudziestych pojawiła się nowa inteligencja, która również pochodziła z warstw ludowych. Stalin tę inteligencję wymordował. Po wojnie wieś wydała jeszcze jedną falę inteligencji, ale ta uległa zrusyfikowaniu. Kiedy powstanie demokratyczne państwo białoruskie, wsi już nie będzie, zginie więc i naród. Białoruś przestanie istnieć jako państwo etniczne.*

*Obecnie na 10 mln ludności jest jakieś 5 tysięcy świadomych Białorusinów. U nas białoruskość traktuje się jak ubranie robocze, więc taki niby Białorusin w pracy mówi po białorusku, oczywiście, gdy ktoś od niego tego żąda, po pracy wychodzi i zapomina o tym języku. W domu, sklepie, na ulicy rozmawia po rosyjsku. Nie wiem, ilu jest Białorusinów, którzy w domu z żoną, dziećmi rozmawiają po białorusku. Nawet studenci filologii białoruskiej w referendum głosowali za językiem rosyjskim. To jakiś paradoks,* — сказаў прарэктар Гродзенскага універсітэта Аляксей Краўцэвіч.

*Kultura, nr 1 (1996), Paryż*

* * *

*У гродзенскіх кнігарнях, вельмі нечакана, паляки пачалі купляць партрэты Лукашэнкі. Звычайныя пакупнікі з партрэтаў толькі пасміхаюцца, чыноўнікі купляюць за кошт дзяржаўнага бюджэту г.зн. падаткаплацельшчыкаў. А палякі, як вядома — спрактыкаваныя гандляры. Купленыя ў Гродне партрэты „бацькі" завозяць у Нямеччыну, каб прадаць тамтэйшым нацыстам за дойчмаркі.*

*Свабода, н-р 17*

Прэзідэнт Беларусі мае ў Нямеччыне шмат прыхільнікаў пасля таго, як у кастрычніку мінулага года заявіў пра сваё захапленне дасягненнямі Гітлера.

* * *

*Беларусам дзесяткі гадоў убівалі ў галаву, што разумныя, працавітыя, таленавітыя людзі жывуць дзесьці там, за мяжой, а тут толькі п'яная, шэрая маса насельніцтва без роду і племені.*

*Наша слова, н-р 11*

Драма заключаецца ў тым, што беларусы ў гэта паверылі.

* * *

*Прэзідэнт А. Лукашэнка бачыць нашу краіну годнай, суверэннай і незалежнай дзяржавай,* — піша прэзідэнцкая газета

*Звязда, н-р 63-64*

І tak trzymać! Найважнейшае, каб праўда выплывала з аўтарытэтных крыніц!

# З мінулага тыдня

**Беластоцкі ваявода Анджэй Гаеўскі** спадарожнічаў прэзідэнту **Аляксандру Кваснеўскаму** падчас ягонага візіту ў Беларусь. Падчас перагавораў ваявода закрануў два пытанні: чэргаў на пагранічных пераходах і неабходнасці адкрыць кантрольна-прапускны пункт у Новым Двары. Беларускі бок абяцаў паправіць арганізацыю працы гранічных службаў з мэтай ліквідацыі чэргаў на КПП і праявіў зацікаўленасць адкрыццём новага пагранперахода на польска-беларускай мяжы.

**Рада Міністраў** выказала сваю афіцыйную пазіцыю ў справе пасольскага праекта закона аб стварэнні **Універсітэта ў Беластоку**. У пісьме, перасланым у Сейм, гаворыцца, што адкрыццё універсітэта можа здзейсніцца толькі тады, калі Філіял ВУ будзе адпавядаць усім крытэрыям, акрэсленым раней Галоўнай радай вышэйшага школьніцтва (Філіял не мае яшчэ права прысвойваць званне доктара ў шасці дысцыплінах і доктара габілітаванага ўвогуле).

**Альжбета Дзікоўская і Тоны Галік** — вядомыя падарожнікі і аўтары тэлеперадач з цыкла „Перац і ваніль", былі на аўтарскай сустрэчы ў Беластоку і наведалі **Лявона Тарасэвіча**, якога абое лічаць адным з самых выдатных мастакоў у Польшчы. Падарожнікі знялі ў Валілах фільм, які будзе часткай большай кінакарціны аб самых цікавых месцах у Польшчы. Альжбета Дзікоўская піша таксама кнігу, якой адным з герояў будзе Лявон Тарасэвіч.

**У Мельніку і Новым Двары** на польска-беларускай мяжы паўстануць новыя пагранічныя заставы. Спачатку будзе сарганізавана пагранзастава ў Мельніку. Цяпер вядуцца работы па прыстасаванні купленых аб'ектаў для патрэб пагранічнікаў і падборка кадраў.

**Марш маўчання** ў знак пратэсту супраць бяссілля дзяржаўных структур у змаганні з нарастаючай хваляй злачыннасці адбыўся ў Беластоку. Шэсце, сарганізаванае студэнтамі, закончылася перад Ваяводскай управай уручэннем петыцыі прадстаўнікам дзяржаўных улад.

**Улады Беластока** аб'явілі конкурс на гейнал горада. Завяршэнне конкурсу плануецца на канец мая г.г. Управа горада зацвердзіла ўжо праект сцяга Беластока, які прапануецца Гарадской радзе для ўхвалення. Сцяг будзе трохколерны: бел-жоўта-чырвоны з гербам горада пасярэдзіне.

**Прадпрыемства вытворчасці крэйды ў Мельніку** не будзе закрыта, — вырашыў сындык Крэйдавага прадпрыемства ў Корніцы, якому падлягае мельніцкі філіял. Сындык, пасля бурных перагавораў з працоўным калектывам, адмяніў свае папярэдняе рашэнне і даў рабочым месяц часу на выпрацаванне прыбытку, што будзе залогам далейшага функцыянавання прадпрыемства да часу яго продажу іншаму контрагенту. Калі прадпрыемства ў далейшым будзе нерантабельнае, будзе яно закрыта. Рабочыя за красавік атрымаюць толькі 150 зл. зарплаты.

**У Кузніцы-Беластоцкай** тры літоўцы напалі на беларуса, які вяртаўся на радзіму. Усе яны пазнаёміліся на беластоцкім базары і там літоўцы запрапанавалі беларусу, што перавязуць яго разам з багажом цераз польска-беларускую граніцу. Каля Кузніцы літоўцы звязалі беларуса, вывелі яго з машыны і прывязалі да дрэва, забіраючы пры гэтым 400 долараў, 500 рублёў і багаж з таварам на 200 долараў. Вызваліцца з путаў і павядоміць паліцыю няшчаснаму беларусу ўдалося толькі на другі дзень, але па злачынцах да гэтага часу і след прастыў.

# Весткі з Беларусі

**Сустрэча ў Віскулях**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка правёў рабочую сустрэчу з прэзідэнтам Польшчы Аляксандрам Кваснеўскім. Прэзідэнты абмеркавалі пытанні развіцця пагранічных зонаў дзвюх дзяржаваў і магчымасці далейшага развіцця двухбаковых адносінаў, перш за ўсё ў гандлёва-эканамічнай сферы. Польскі прэзідэнт выказаў зацікаўленасць перспектывамі адносінаў Беларусі з Расеяй у святле апошніх падзеяў. Беларускі бок у сваю чаргу выказаў цікавасць да польскага вопыту ў правядзенні эфектыўных эканамічных рэформаў. Спатканне адбылося ў рэзідэнцыі Віскулі.

**Паслядоўнасці дэманстрацый**

Прававую адзнаку нядзельным падзеям у Менску (антыпрэзідэнцкай дэманстрацыі ад 24 сакавіка г.г. — рэд.) даў пракурор беларускай сталіцы Мікалай Купрыянаў. Ён падкрэсліў, што спыненне ўдзельнікамі мітынгу транспарту, несанкцыянаваны мітынг каля тэлецэнтра, арганізацыя шэсця па праспекце Скарыны — усе гэтыя дзеянні будуць расследаваны, будзе канкрэтна ўстаноўлена віна кожнага з арганізатараў як фармальных, так і нефармальных. Калі пракуратура атрымае неабходныя матэрыялы, будзе ўзбуджана крымінальная справа па нядзельных падзеях у беларускай сталіцы.

**Прэзідэнцкі мітынг**

31 сакавіка ў Менску ўлады сарганізавалі дэманстрацыю ў падтрымку прэзідэнцкай палітыкі яднання з Расіяй. 30 тысяч удзельнікаў мітынгу выказаліся за інтэграцыю з суседняй рэспублікай, што знайшло адлюстраванне ў рэзалюцыі і пасланні народам Расеі. Пра ўдзел рабочых у дэманстрацыі паклапаціліся кіраўніцтвы заводаў, якія сваім транспартам давезлі іх на дэманстрацыю.

**Ракеты ў Беларусі**

На тэрыторыі Беларусі цяпер знаходзіцца 18 ядзерных ракет, — заявіў прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, выступаючы ў парламенце. — За тры гады пасля аб'яўлення Беларуссю свайго статусу бяз'ядзернай дзяржавы з тэрыторыі краіны ўжо вывезены 63 ракеты. Ракеты, якія засталіся, — запэўніў Лукашэнка, — будуць выведзены да канца 1996 года.

**Беластоцкі форум**

У Менску адбыўся трохдзённы дзелавы форум, наладжаны Беластоцкім ваяводствам і Беларускай гандлёва-прамысловай палатай. Яго асноўная задача — арганізацыя сустрэч і перамоваў з прадстаўнікамі бізнес-колаў дзвюх краінаў з мэтай наладжвання гаспадарчых кантактаў. З польскага боку ўдзел у сустрэчы прынялі 18 фірмаў рознага профілю.

**Ушанаванне Дварчаніна**

Імя вядомага беларускага грамадскага дзеяча, літаратуразнаўца, паэта і перакладчыка Ігната Дварчаніна памятаюць і шануюць на яго радзіме ў Дзятлаўскім раёне. У свой час ён шмат зрабіў для развіцця школы. У пачатку 20-х гадоў выкладаў ён у адной з беларускіх гімназій у Вільні літаратуру, дзе склаў хрэстаматыю новай беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя. Ігнат Дварчанін актыўна змагаўся за родную мову, калі быў дэпутатам польскага сейма і членам кіраўніцтва Таварыства беларускай школы. Пастановай Кабінета Міністраў Жукавішчанскай сярэдняй школе Дзятлаўскага раёна прысвоена імя Ігната Дварчаніна.

**Сімвал трыадзінства**

На граніцы трох брацкіх краін — Расіі, Украіны і Беларусі — можна цяпер бачыць розных спецыялістаў, архітэктараў, будаўнікоў. Ідзе агляд і рэкагнасцыроўка мясцовасці. Тут будуць будаваць вялікае сяло Троіцкае і храм у імя Прасвятой Троіцы. Яны будуць сімвалізаваць трыадзінства ўсходнеславянскіх народаў — рускіх, беларусаў і украінцаў, якія маюць агульныя карані ўжо тысячу гадоў аб'яднаных праваслаўем. З сяла Троіцкае да храма з боку кожнай з рэспублік будуць весці вуліцы Беларуская, Украінская і Руская. Жыць у Троіцкім будуць славяне, у тым ліку бежанцы з гарачых кропак былога Саюза, а таксама перасяленцы з Чарнобыльскай зоны. Мяркуецца, што Троіцкае стане месцам правядзення вялікіх кірмашоў, тут пабудуюць гандлёвыя гарадкі трох рэспублік.

**„Палітыка" ў Гродне**

Прэзентацыя аднаго з самых папулярных перыядычных выданняў штотыднёвіка „Палітыка" прайшла ў Гродне. Яна адбылася ў межах традыцыйных сустрэч грамадскасці горада ў Генеральным консульстве Польскай Рэспублікі, якія праходзяць двойчы ў месяц.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Забытыя ахвяры нямецкай акупацыі** — рэпартаж Аляксандра Вярбіцкага.
- **Кнарыды на прадвесні** — рэпартаж Ганны Кандрацюк.
- **Што абазначае „быць чалавекам" у Чаромсе** — піша Уладзімір Сідарук.

# ПАРНАСІК

## Мая вёсачка

Я люблю сваю родную вёску,
У канцы вёскі плакучу бярозку,
А з другога канца ні то рэчачка,
Ні то папросту такі ручаёк.
А вунь там на гарэ Божы крыж,
Ён ад старасці пахіліўся набок.
О, родная мая ты вёсачка,
О, родных прадзедаў родны куток!
Чаму цябе я так палюбіла?
Мусіць гэта том, што тут мяне
Матуля нарадзіла і тут дзесьці
Закапала мой пупок.
А можа і ты запытаеш,
Куды падзеліся з той вёскі людзі?
Магла б і я сказаць, але баюся,
Бо сэрца мне аж разрывае грудзі.
У трыццаць дзевятым і ў сорак пятым
Іх вымардавалі гітлераўцы.
Забілі целы і спалілі хаты.
Ляжаць у родным і нядродным краях,
А прозвішчы іх я ледзь успамінаю.
Там ляжаць мае Міхаць, Вінцук і Вера.
Без пары яны памерлі ад гэтага звера.
Не вёска ты, а вёсачка асталася,
Асірацелых толькі пара хат.
Няма ўжо тых хлапцоў, што тут былі
калісьці,
Няма прыгожанькіх дзяўчат.
Развеяў вас усіх лёс па цэлым свеце:
Беласток, Мінск, Згажэлец, Вроцлаў,
Варкута...
А ў роднай вёсцы, дзе спявалі мы
калісьці
Не асталося з нашых сем'яў і ката...

**Надзея Дудзік**

## Наша сэрца

Калі мароз пройдзе,
Тады нас не знойдзе.
Распачнецца час цяпла
І мо дабра.
Калі ў душы холад,
Гэта ўжо голад,
Адкуль зло паўстае —
Чалавек чалавека не пазнае.
Духоўныя холад і голад — адно:
Гэта наша дно,
Якое трэба любоўю запоўніць
І жывога Хрыста ўспомніць.
Няхай цяпло ў сэрцах запануе
І хай нам імпануе
Толькі ў добрых пачынках:
У посце, пакаянні, малітвах.
Выкарыстаем гэты час,
Бо ён выключна для нас.

**Мікалай Панфілюк**

# Найлепшыя дэкламатары

У бельскім белліцэі адбыліся цэнтральныя элімінацыі дэкламатарскага конкурсу для вучняў агульнаадукацыйных ліцэяў з беларускай мовай навучання як дадатковым прадметам і для дарослых. Арганізавалі іх Куратoрыя асветы і Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку.

Сярод каля 30 фіналістаў школьных элімінацый журы спецыяльную ўзнагароду прысвоіла тром вучаніцам Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім: Агнешцы Нічыпарук, Бажэне Селевановіч і Дароце Кулачэўскай.

Раўнапраўнае першае месца занялі: Мацей Сніткоўскі і Агнешка Кулачэўская з ІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя ды Аліна Аўрамюк з ІІ АЛ у Бельску. Тры другія раўнапраўныя месцы: Юліта Баршчэўская і Іаанна Крот з ІІ АЛ у Бельску ды Эва Качук з ІІ АЛ у Гайнаўцы. На трэцім месцы апынуліся: Анеля Сушч з ІІ АЛ у Бельску і Ірэна Лукша з Мора (Чыжоўская гміна).

Былі таксама вылучэнні, якія атрымалі Кацярына Сахарчук, Агнешка Бяглюк, Кацярына Сахацкая і Кацярына Аксянцюк — усе з Гайнаўкі ды Дарота Брэнька з Бельска.

Удзельнікі конукурсу дэкламавалі творы класікаў беларускай літаратуры, эміграцыйных беларускіх пісьменнікаў ды беластоцкіх беларускіх літаратараў; сярод тых апошніх вершы і апавяданні між іншым Сакрата Яновіча, Міры Лукшы, Юркі Геніюша, Уладзіміра Гайдука, Алеся Барскага, Віктара Шведа, Міхася Шаховіча, Юркі Трачука, Надзеі Артымовіч і Сымона Раманчука.

Дэкламатарскі конкурс у Бельску цешыўся зацікаўленнем журналістаў беларускіх тэлеперадач Польскага тэлебачання ў Беластоку. Так што лепшых дэкламатараў беларускай паэзіі і прозы пабачыць шырокі круг тэлегледачоў.

**(яц)**

# Несалідная інфармацыя

У інфармацыі пра апошні перадвыбарчы сход Беларускага гістарычнага таварыства, змешчанай у „Ніве" ад 23 сакавіка г.г. адзначаецца, як здзейсненае членамі таварыства: выхад чатырох кніжак, чатырох нумароў „Гістарычных сшыткаў" ды наладжанне трох навуковых канферэнцый. Сярод пералічанага забракавала такой значнай падзеі, якой было адкрыццё ў снежні мінулага года выстаўкі пра бежанства, наладжанай БГТ супольна з музеем у Бельску-Падляшскім. Адкрыццё выстаўкі суправаджала другое мерапрыемства — канферэнцыя, на якой з запланаваных пяці выступіла чатырох дакладчыкаў.

Як адзначыў у размове са мной старшыня БГТ Алег Латышонак, выстаўка пра бежанства з'яўляецца пакуль значнейшай падзеяй у дзейнасці Таварыства. Сустрэлася яна з шырокім грамадскім рэзанансам. Паводле ўступных падлікаў, да канца сакавіка выстаўку наведала звыш 1000 чалавек, найболыш школьнікаў і настаўнікаў. Нямала было таксама індывідуальных наведвальнікаў.

Пішу гэта, каб прыпомніць пра журналісцкую салідпасць.

З павагай

**Дарафей Фіёнік**

**Ад рэдакцыі:** Шчыра перапрашаем арганізатараў выстаўкі і кіраўніцтва Беларускага гістарычнага таварыства за дапушчаную намі адсутнасць інфармацыі пра выстаўку „Бежанства", што арганізавалася ў Бельскім музеі.

# Наш чарговы доктар!

У аўторак, 26 сакавіка 1996 г. у Аддзяленні гістарычных навук Універсітэта імя Мікалая Каперніка ў Торуні адбылася публічная абарона доктарскай (кандыдацкай) дысертацыі **Алега Латышонка** пад загалоўкам **„Беларускія вайсковыя фармацыі ў 1917 — 1923 гадах"**.

Алег Латышонак у сваёй працы прадставіў малавядомую дзялянку беларускага нацыянальнага руху, а менавіта беларускі ўзброены чын. Як даказаў аўтар, беларусы, нягледзячы на нізкую нацыянальную свядомасць і складанасць палітычных і ваенных умоў на беларускіх землях, думалі пра адваяванне сваёй дзяржавы. Прадметам аналізу ў працы з'яўляюцца таксама падзеі на беларускіх землях ва ўспомнены перыяд, якія непасрэдна ўплывалі на магчымасці фарміравання беларускіх вайсковых падраздзяленняў.

Праца, напісаная пад навуковым кіраўніцтвам прафесара Універсітэта імя Мікалая Каперніка Вальдэмара Рэзмэра была прыхільна ацэнена рэцэнзентамі праф. праф. Тэрэсай Куляк з Вроцлава і Мечыславам Вайцяхоўскім з Торуні. Алег Латышонак здолеў паспяхова абараніць сваю дысертацыю і Рада аддзялення не толькі аднагалосна яе зацвердзіла, але і вылучыла!

Чарговая абарона доктарскай дысертацыі пра беларускае войска паказала, што наш інтэлектуальны патэнцыял ужо немалы і ёсць чым ганарыцца перад гісторыкамі Польшчы і Беларусі.

Цешыць і тое, што „Ніве" прыбыў яшчэ адзін доктар. Алегу Латышонку з гэтай нагоды жадаем не толькі цікавых публікацый на старонках штотыднёвіка, але і далейшых плённых навуковых пошукаў і творчых дасягненняў.

**Лена Глагоўская**

*Віншуем калегу **Алега Латышонка** з паспяховым завяршэннем доктарскай дысертацыі і жадаем яму далейшых навуковых і журналісцкіх дасягненняў.*

**Рэдакцыя**

Шахматы

## „Залатая вежа" ў Міхалове

Перамогай ЛЗС з Сямятыч закончыўся ваяводскі шахматны турнір на „Залатую вежу", які адбыўся ў Міхалове. Другое месца заняла каманда ЛЗС з Гарадка і трэцяе — з Заблудава. Паасобныя пераможцы турніра гэта: 1. Дарыюш Шэранос з Гарадка, 2. Андрэй Дзянісюк з Сямятыч і Францішак Татарчук з Бельска-Падляшскага, 3. Войцех Налівайка з Гарадка і 4. Галіна Койла з Заблудава.

**(яц)**

# А Лявоніху Лявон палюбіў...

У мяне заўсёды атрымліваецца не так, як трэба. Калі толькі адбываецца нешта важнае або для мяне прыемнае, то са мною абавязкова здараецца або бяда, або іншая перашкода, і не даводзіцца мне быць там, дзе людзі весяляцца, гуляюць, гасцююць. Сёлета беларусы і прыхільнікі беларускасці вельмі ўрачыста адзначалі 40 гадавіну Беларускага грамадска-культурнага таварыства, а рэдакцыя „Нівы" таксама сarakагоддзе свайго існавання. Абедзве гэтая ўрачыстасці і звязаныя з імі прыемнасці я праляжаў у шпіталі пад кіслародам. А ў мяне былі запрашэнні на абедзве імпрэзы. Ведаю, за што гэтыя пакаранні ад Усявышняга, але не скажу, бо гэта была б доўгая і непатрэбная аповесць.

Сёння я ўжо больш-менш здаровы. Як там яно ёсць — няважна, бо гэта цікавіць найбольш адно толькі маю каханую жонку. Аднак круглыя гадавіны БГКТ і „Нівы" будуць трываць да канца года, дык хачу паспець з віншаваннямі і найлепшымі пажаданнямі для ГП БГКТ і рэдакцыі „Нівы". Чытаў я, што Янка Сычэўскі атрымаў вышэйшую ўзнагароду РБ — ордэн Францішка Скарыны, а сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч і візітатар школ Тамара Русачык атрымалі аж па некалькі дзяржаўных узнагарод — крыжоў. З прыемнасцю яшчэ раз віншую названых і неназваных лаўрэатаў. Пры нагодзе з вялікай настальгіяй, са слязамі на вачах хачу ўспомніць аб славутым калектыве „Лявоніха".

Пасля арміі я жыў і працаваў у Варшаве. Быў фанатыкам рускіх, украінскіх і беларускіх песень. Але ведаў толькі аб канцэртах, якія перадаваліся з Масквы для польскіх радыёслухачоў. Калі купіў я радыёпрыёмнік, дык ніхто і нішто не маглі мне перашкодзіць паслухаць канцэрт, які перадаваўся ў 15.00 кожнай нядзелі. Было і для мяне шмат пажаданняў і песень, аб якіх я ў пісьмах прасіў. Нават жонка палюбіла гэтыя мелодыі і не спрачалася, калі забіраў я яе і дзяцей з прыбіслянскага пляжа і гнаў дамоў, каб не спазніцца. Праўда, забыў я сказаць, што акрамя вучобы і працы я яшчэ належаў да Русского культурно-просветительного общества, дзе часам удалося паслухаць рускія песні пры нагодзе нейкага сходу, але гэтага было вельмі мала.

І вось па волі лёсу, у 1962 годзе я вярнуўся ў Беласток і пачаў чытаць „Ніву". І калі не памыляюся, менавіта з „Нівы" я даведаўся, што ў клубе Таварыства польска-савецкай дружбы адбудзецца канцэрт калектыву „Лявоніха". Пайшоў я на яго і перажыў вялікую эстэтычную прыемнасць і духоўную ўпэўненасць, што ў Польшчы жывуць не толькі адны палякі, якія могуць прапагандаваць толькі польскія песні. З гонарам думаў, што дзякуючы сацыялістычнай уладзе нацыянальныя меншасці могуць таксама поўным голасам выяўляць свае песні і паказаць свае танцы. Калі вядучы канцэрт аб'явіў, што выйдуць на сцэну Люба Томчык, Вася Кардзюкевіч і Аляксандр Каліноўскі, зала выбухнула бурнымі апладысментамі. Я гэтых артыстаў яшчэ ніколі не бачыў дык быў надта ж цікавы іх нават самога знешняга выгляду. На сцэну выйшла больш чым трое артыстаў. Калі Вася Кардзюкевіч расцягнуў баян ды супольна з Каліноўскім зацягнулі лясную песню „Ой бярозы ды сосны...", мне больш нічога не трэба было. А бісам і апладысментам пасля кожнай іх мелодыі, думаў, не будзе канца.

Гэта была жамчужына адраджанага народу, якая давала вялікае задавальненне наехаўшаму з вёсак яшчэ не надта адукаванаму грамадству нашых народаў, а краіне — славу і гонар. Аднак гэтыя ж „сацыялістычныя" ўлады відавочна не захацелі, каб на іхняй зямлі расцвіталі „чужыя" кветкі такой прыгажосці. Узялі ды ліквідавалі гэты славуты калектыў, на які граша не давалі, бо ён жыў і дзейнічаў за свой кошт. Вельмі шкада і сумна, што такі букет давялі да ліквідацыі. Сорам эгаістычным ліквідатарам, а слава артыстам, якія яшчэ жывуць сярод нас і вечная хвала памерлым. Я проста сумую па іх і з гонарам часта ўспамінаю. Болей таго, я адчуваю сябе грамадзянінам другой катэгорыі. Хіба ўсе памятаем, як у час святкавання дажынак іх ганаровы гаспадар І сакратар ЦК ПАРП Эдвард Герэк дзяліў „гэты народны бохан хлеба" сярод полек і палякаў, а не сярод польскага грамадства. Гэта адчувалася, што трэба чакаць на панскія аб'едкі. А калі так, то навошта каму нейкая там культура выдуманым нацыянальным меншасцям? А Люба Томчык і іншыя нашы пявунні, як на злосць, усё прыгажэюць!

**Васіль Петручук**

# Хто стварыў, а хто знішчыў Грамаду

У канцы васьмідзесятых гадоў наступіла як бы адраджэнне беларускай гістарыяграфіі. Неўзабаве з'явіліся розныя пункты гледжання на кожную гістарычную падзею, дыскусіі і палемікі на старонках кніжак і часопісаў. Беларускія гісторыкі яшчэ раз атрымалі хвіліну часу, каб сказаць троху праўды пра сваё мінулае.

Гартаючы беларускія гістарычныя часопісы, маю ўвагу прыцягнула дыскусія ў штомесячніку „Беларуская Мінуўшчына" на тэму Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Хаця ў польскай і беларускай гістарыяграфіях, „Ніве", бэгэкатоўскіх „Календарах" шмат пісалася пра гэтую партыю, аднак больш тут было нейкай літаратуры факта, чым аналітычнага асвятлення падзеяў.

Даследчыкам з Мінска лягчэй было дайсці да крыніц і калі толькі адкрыліся архівы, гісторыю Грамады можна было пісаць нанава.

У 1993 г. у часопісе „Беларуская Мінуўшчына" (н-р 2) Лявон Герасімаў паставіў тэзіс, што КПЗБ не толькі стварыла Грамаду, але таксама яе знішчыла. Калі ў Савецкай Беларусі ўсе палітычныя працэсы адбываліся пад наглядам КПСС, якая і вырашала пра іх напрамак, на тэрыторыі Заходняй Беларусі, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы і на наяўна антыбеларускую палітыку польскіх улад, існавала шмат партыяў і арганізацый, якія мэтай свайго існавання на першым месцы ставілі адраджэнне беларускай, незалежнай дзяржаўнасці. Паводле даследаванняў Герасімава, Камінтэрн даручыў камуністам Заходняй Беларусі місію саргапізаваць магутную партыю, якая на аднолькавым узроўні мела ставіць сацыяльныя і нацыянальныя праблемы беларусаў у Польшчы. Мела гэта быць арганізацыя, якая выклікала б перапалох сярод палякаў і радыкальнае, антыбеларускае супрацьдзеянне з боку дзяржаўнага апарату. У рэчаіснасці так яно і адбылося. Паліцэйскія рэпрэсіі супраць Грамады пачаліся тады, калі партыя налічвала больш за сто тысяч членаў. Варта тут заўважыць, што ў гэтым самым часе ў Савецкай Беларусі праводзілася рашучая беларусізацыя асветы, навукі, культуры, а з Еўропы на Бацькаўшчыну вярталіся стваральнікі Беларускай Народнай Рэспублікі, прызнаючы гэтым самым легітымнасць бээсэсэраўскай дзяржавы.

Пасля разгрому Грамады ў 1927 г. для большасці беларускіх палітыкаў у Польшчы стала вядомым, што ад палякаў няма чаго чакаць ніякіх кампрамісаў у вырашэнні якіх-небудзь нацыянальных ці сацыяльных праблемаў двухмільённай беларускай меншасці. Штораз больш прывабнай у гэтым кантэксце станавілася Савецкая Беларусь. Пашырэнню ўсходняй арыентацыі выдатна паспрыялі самі палякі, адказваючы рэпрэсіямі на кожную беларускую актыўнасць. У трыццатых гадах, апрача нелегальнай КПЗБ, не было ў Польшчы беларускай партыі, якая мела б нейкі аўтарытэт у грамадстве. Беларусы не мелі сваіх паслоў ні сенатараў, не мелі затым магчымасці змагацца за свае інтарэсы дэмакратычнымі метадамі. Калі тады справа Грамады была правакацыяй Камінтэрна, то поўнасцю закончылася яна поспехам.

Інакш справа ўзнікнення і ліквідацыі Грамады выглядае ў навуковай інтэрпрэтацыі Рыгора Лозькі („Беларуская Мінуўшчына", н-р 2, 1994 г.). Знішчэннем беларускага нацыянальнага руху, паводле гэтага даследчыка, аднолькава зацікаўленыя былі і саветы, і палякі. „Польская дзяржава, — піша ён, — у барацьбе за ўстанаўленне сваіх межаў паслала войскі, дзе ўжо была абвешчана і спрабавала наладзіць дзяржаўнае жыццё Беларуская Народная Рэспубліка. Тут не было палітычнага вакууму". Хаця Ленін аддаваў палякам усю Беларусь, яны вырашылі ўзяць толькі палову гэтай тэтыторыі, з мэтай яе цалкавітай паланізацыі. У Варшаве палічылі, што асіміляцыя цэласці будзе не пад сілу маладой польскай дзяржаве. Сама логіка стварэння нацыянальнай дзяржавы як бы сама сабой вяла польскія ўлады да антыбеларускай палітыкі, а гэта ў сваю чаргу выклікала ў натуральны спосаб усялякія формы супрацьдзеяння з боку беларусаў, уключна з праслаўляннем усяго, што адбывалася ў БССР. „Бальшавіцкі ўрад, — пісаў Тарашкевіч, — з вялікай упартасцю будуе новы дом беларускай дзяржаўнасці". Вацлаў Ластоўскі, старшыня ўрада БНР на эміграцыі, заяўляў: „Беларусы пад Польшчай праследуюцца як ніводная народнасць, а ў межах Радзянскай Рэспублікі ідзе разбудова Беларусі, што родзіць натуральнае імкненне заходніх беларусаў да аб'яднання з Менскам". У 1926 г. лідэры Грамады адкінулі ранейшыя свае ідэі стварэння аўтаноміі Заходняй Беларусі ў межах Польшчы. У першым пункце праграмы партыі было запісана: „Усе беларускія землі павінны быць злучаны ў адну незалежную рэспубліку пад уладай рабочых і сялян". Супадала гэта з новай палітыкай Сталіна, які загадаў тады ўсім камуністам Еўропы стварыць рух салідарнасці з Савецкім Саюзам. З польскага пункту гледжання, Грамада прадстаўляла сілу, якая імкнулася да расколу дзяржавы, у вачах большасці беларусаў была гэта партыя, якая несла паратунак свайму народу, а для Камінтэрна была інструментам рэалізацыі нейкай глабальнай палітыкі.

Разгром Грамады ніякім чынам не паўплываў на ўзаемадачыненні паміж Варшавай і Масквой, якія з 1927 г. станавіліся нават лепшымі. Тарашкевіч і яго сябры сталі тады адзінымі авантурыстамі, якія прыдумалі парушыць еўрапейскі парадак і межы дзяржавы, якой былі грамадзянамі. „Як бы там не было, — піша Лазько, — але ва ўзніклай сітуацыі бальшавіцкі і санацыйны рэжымы добра разумелі адзін аднаго. Для іх пытанне Грамады было толькі сродкам у вырашэнні другіх задач, якія ў той час лічыліся больш важнымі. Такім чынам Грамада стала ахвярай двох дыктатур — бальшавіцкай і санацыйнай. Пазней такі лёс напаткаў увесь беларускі нацыянальны рух".

**Я. М.**

# Загінуў на шыбеніцы...

Надыходзяць сумныя ўгодкі. 50 гадоў таму бальшавікі завяршылі следства па справах „беларускіх буржуазных нацыяналістаў: генерала Кастуся Езавітава, маёра Усевалада Родзькі, маёра Івана Гелды, віцэ-прэзідэнта Беларускае Цэнтральнае Рады Мікалая Шкялёнка, прафесара Платона Жарскага ды іншых. Усіх іх расейскія акупанты прысудзілі да кары смерці на шыбеніцы. Да гэтага часу афіцыйныя гісторыкі не ўпамінаюць пра гэтую трагедыю. Праўда, чатыры гады таму КДБ раскрыў архіў ген. Езавітава, але было пададзена, што ён памёр у траўні 1946 года ад „туберукулёзу"... Дык успомнім сёння пра аднаго з гэтых беларускіх патрыётаў — маёра Беларускай краёвай абароны Івана Антонавіча Гелду.

* * *

Весткі пра яго жыццёвы шлях вельмі скупыя. Нарадзіўся Іван Гелда на Беласточчыне, быў шляхецкага паходжання. У першую сусветную вайну ён ваяваў супроць немцаў у складзе расейскай арміі, быў афіцэрам. Пасля захопу ўлады ў Расеі бальшавікамі, І. Гелда ўступае ў армію генерала Юдзеніча. Ён ваюе з аддзеламі Чырвонай Арміі ў Эстоніі ды на подступах да Петраграда. Калі генерал-маёр С. Булак-Балаховіч пачаў „беларусізацыю" ў сваім войску, І. Гелда пераходзіць да яго. Разам з „бацькам" ён ваюе пасля на Палессі, удзельнічае ў паходзе на Мазыр.

У міжваеннай Польшчы Іван Гелда прымае актыўны ўдзел у беларускім нацыянальна-вызвольным руху. На Беласточчыне ён быў адным з кіраўнікоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Праўдападобна, што ў студзені 1927 г., сярод іншых актывістаў-грамадоўцаў, Гелда быў арыштаваны польскай паліцыяй. Не маю сёння звестак, на які тэрмін зняволення ён быў прысуджаны і дзе адбываў пакаранне.

Ёсць звесткі, што І. Гелда быў сябрам падпольнай Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Калі гэта так, дык у архівах павінны быць адпаведныя дакументы. Дакладна вядома, што ён працягваў трымаць кантакт з былымі актывістамі Грамады. Ацалелыя актывісты-грамадоўцы нелегальна дзеялі ўсе 30-я гады. Яны выкарыстоўвалі ў сваіх мэтах Беларускую нацыянал-сацыялістычную партыю Казлоўскага — Акінчыца і Беларускі нацыянальны фронт кс. Гадлеўскага. Грамадоўцы ўступалі ў гэтыя арганізацыі ды стваралі на месцах суполкі. І дзеялі пад шыльдаю БНСП і БНФ. Польская паліцыя хутка гэта выкрыла ды правяла арышты, развязаўшы частку суполак.

Апошняя перадваенная тайная нарада грамадоўцаў адбылася на пачатку 1939 года ў Баранавічах. Ад Беластока на яе прыехалі Васіль Лукашык, Канстанчук (былы актывіст Нацыянальнай сэцэсіі КПЗБ) і Іван Гелда. Вырашалася пытанне дзеяння грамадоўцаў на выпадак вайны Польшчы з Нямеччынай ды планавалася супрацьпольскае паўстанне на Палессі. Аднак Гелда прыняць у ім удзелу не змог, бо быў арыштаваны польскай паліцыяй адразу пасля выбуху вайны. Аднак зняволенне доўжылася нядоўга — фашысты і бальшавікі імкліва акупавалі абшары былой польскай дзяржавы.

Няма ніякіх звестак пра тое, дзе знаходзіўся Іван Гелда з верасня 1939 г. да чэрвеня 1941 г. Калі ён заставаўся пад бальшавіцкай акупацыяй, дык, праўдападобна, быў арыштаваны НКУС. Але хутчэй за ўсё ён уцёк на тэрыторыю нямецкай акупацыі, бо добра ведаў, што зробяць з ім, былым балахоўцам, бальшавікі.

З восені 1941 г. Гелда — сябра управы Беларускага аб'яднання ў Беластоку. Але ён не парывае сувязі з былымі сябрамі па Грамадзе. Калі ўвосень 1941 г. камендант менскай паліцыі (былы сябра Грамады і КПЗБ) Юльян Саковіч склікаў генеральную нараду грамадоўцаў у Менску, Гелда прыбыў на яе разам з Лукашыкам (бурмістрам Беластока, у 1942 г. уцёк у Швецыю). На нарадзе была створана „Беларуская народная Грамада" ды быў прыняты план далейшых дзеянняў. І. Гелда адстойваў на нарадзе неабходнасць супрацоўніцтва з немцамі, каб мець на іх нейкі ўплыў ды ствараць беларускія ўзброеныя аддзелы.

У Беластоку Гелда стварыў беларускую паліцыю („шуцманшафт") са 120 чалавек. У 1943 годзе яму ўдалося арганізаваць атрад самааховы для барацьбы з савецкімі і польскімі ляснымі аддзеламі. У некаторых савецкіх крыніцах ёсць звесткі, што Гелда арганізаваў атрад „ложных" партызанаў. Магчыма, гэта была спроба арганізаваць нацыянальны партызанскі рух.

Пакуль не высветлена пытанне ўдзелу беларускай паліцыі ў ліквідацыі беластоцкага гета. У 1993 г. у „Советской Белоруссии" друкаваліся ўрыўкі са справы Гелды, узятыя з Брэсцкага архіва КДБ. Там ён нібыта пацвярджае гэты факт. Але трэба гэтае пытанне дасканала вывучыць.

27 чэрвеня 1944 г. І. Гелда ўдзельнічаў у 2-м Усебеларускім кангрэсе ў Мінску. Пасля яго заканчэння, як сябра Беларускай незалежніцкай партыі, ён едзе ва Усходнюю Прусію, дзе была распачата падрыхтоўка беларускай моладзі на партызанскую дзейнасць на Бацькаўшчыне. Гелда з'яўляўся камандзірам гэтага спецыяльнага беларускага батальёна пад назовам „Дальвіц". У гэты час ён быў ужо маёрам БКА.

У лютым 1945 г. Гелда быў уведзены ў Беларускую Цэнтральную Раду. Батальён „Дальвіц" у гэты час знаходзіўся каля Берліна. У красавіку адбылася нелегальная канферэнцыя БНП, на якой была ўтворана Беларуская вайсковая арганізацыя. Старшыня ЦК БНП Ус. Родзька паставіў перад БВА адну задачу — партызанскае змаганне на Бацькаўшчыне за незалежную Беларускую Дзяржаву.

На пачатку мая 1945 г. „Дальвіц" знаходзіўся ў Празе. Нядаўна памерлы сябра ЦК БНП Міхась Зуй пісаў у сваіх успамінах: „У часе адсутнасці камандзіра Родзькі, яго заступнік, капітан Гелда, каб не праліваць крыві, даў загад жаўнерам батальёна „Дальвіц" здаць зброю чэхам. Гэта здарылася на вуліцах горада Прагі..."

Дакладна невядома, дзе быў арыштаваны маёр Гелда. А. Салаўёў, у выдадзенай у Менску ў 1995 г. кнізе пра БЦР, піша, што Гелду пакінулі ў Берліне для наладжвання сувязі з паўстанцамі Беларускай вайсковай арганізацыі. Некаторыя эміграцыйныя крыніцы паведамляюць, што І. Гелда, на прапанову грамадоўцаў ісці на Захад, адказаў наступнае: „Я хачу прысвяціць усё сваё жыццё ўзброенай барацьбе за вызваленне Беларусі". Ужо ў чэрвені 1945 года маёр Гелда знаходзіўся ў руках савецкіх органаў дзяржбяспекі і даваў паказанні аб сваёй дзейнасці. Следства цягнулася да вясны 1946 г., калі Іван Гелда і шмат іншых беларускіх патрыётаў былі засуджаны на смерць... Беларускія эміграцыйныя крыніцы паведамляюць, што І. Гелда быў павешаны ў 1946 годзе ў Беластоку.

**Сяргей Ёрш**

# Мэтай было азнаямленне

## У Беластоку

27 сакавіка г.г. адбылася тут сустрэча прадстаўнікоў беларускіх і польскіх міністэрстваў з уладамі ГП БГКТ. Удзельнічалі: Ежы Бісяк — дырэктар Бюро па справах культуры нацыянальных меншасцей Міністрэрства культуры і мастацтва і працаўнік гэтага бюро Ежы Завіша. Рэспубліку Беларусь прадстаўлялі: Іван Яновіч і Віктар Мацюшэнка з Міністэрства культуры ды Вячаслаў Мацюшэнка і Генадзь Пяцігор з Міністэрства адукацыі і Генеральны консул РБ у Беластоку Міхаіл Слямнёў.

Мэтай спаткання было азнаямленне беларускай дэлегацыі з працай польскага ўрада ў вырашэнні пытанняў нацыянальных меншасцей. Беларуская дэлегацыя мае ў канцы красавіка прадставіць рапарт са сваёй паездкі прэзідэнту РБ.

Сустрэча з уладамі БГКТ праходзіла ў атмасферы зразумення.

— Вядома, што ваша арганізацыя найважнейшая, — сказаў Ежы Бісяк. Пахваліў ён БГКТ і ягонае кіраўніцтва за энтузіястычнае прывітанне прэм'ерміністра Уладзімежа Цімашэвіча ў час фестывалю „Беларуская песня'96".

— Ta owacja, którą przywitaliście premiera, była dowodem jak bardzo kochacie naszego premiera, — сказаў Ежы Бісяк, а Янка Сычэўскі не быў у даўгу і спасláўся на словы вядомай песні, заяўляючы, што „każdemu wolno kochać".

Паводле дырэктара Бісяка, супрацоўніцтва з беларускай меншасцю найбольш гарманічнае, прыкладнае.

— Вядома, і ў вас ёсць праблемы, — гаварыў Ежы Бісяк, — але гэта, як сказаць, вашыя ўнутраныя справы, якія вы самі мусіце вырашыць.

Найбольш закалоту ў беларускай меншасці, паводле Ежы Бісяка, вакол „Нівы" і Гайнаўскага беларускага музея. „Ніва" гэта марнаванне грошай усёй беларускай меншасці.

— За такія грошы, — гаварыў дырэктар Бісяк, — украінцы друкуюць у тры разы большую колькасць нумароў. А „Нівы" ніхто не чытае, бо яна нецікавая. Нават той тыраж, што друкуецца, амаль поўнасцю звяртаецца.

— Musicie z tą „Niwą" coś zrobić, — прапанаваў Ежы Бісяк, — bo nie jest dobrze.

Янка Сычэўскі бышцам бы чакаў гэтых слоў. Падтрымаў ён пачутыя выказванні.

— Мы вельмі моцна перажываем „Ніву", — гаварыў старшыня БГКТ. — Забралі яе ад нас не зусім дэмакратычна. Журналісты „Нівы" губляюць аб'ектыўнасць, калі што звязана з БГКТ. Адно чым займаюцца гэта аплёўваннем, крытыканствам або варожым замоўчваннем дасягненняў БГКТ.

— А БГКТ робіць жа нямала, — гаварыў Янка Сычэўскі. — На працягу года мы арганізуем 80-90 мерапрыемстваў, вялікую колькасць конкурсаў для моладзі. Мы даехалі з роднай песняй у кожны, нават далёкі, куточак Беласточчыны.

„Ніва" гэтага не заўважае. Сама поўнасцю адарвалася ад беларускага асяроддзя. Няма ў ёй матэрыялу з глыбінкі, а такі бяльшчанін ці гайнавянін хацеў бы пачытаць пра жыццё ў сваім горадзе. „Ніва", — гаварыў Янка Сычэўскі, — не піша пра нашых школьнікаў, пра нашых літаратараў.

Не менш гарачай справай была тэма Гайнаўскага беларускага музея. Вядома ўжо, што будзе ён фінансавацца дзяржаўным бюджэтам. Аднак музеем павінны заняцца прафесіяналы, бо добрага сэрца спадара Майсені не хопіць, — гаварыў спадар Завіша. Паявілася таксама прапанова бурмістра Гайнаўкі, Ядвігі Рудзінскай-Патэюк, каб у частцы музея зрабіць Гарадскі дом культуры, бо сённяшні „Гурнік" цяжка гораду ў будучыні будзе ўтрымаць.

Пра беларускую асвету Янка Сычэўскі сказаў, што ў гэтай галіне ўсё ідзе добра.

— Калі і пачынаюцца праблемы, то па віне самога асяроддзя, напрыклад аўтары не пішуць на час падручнікаў. І матэрыяльнае забеспячэнне школ нярэдка лепшае чым у палякаў, — гаварыў старшыня. Тут адзначыў, што вялізную ролю ў беларускай асвеце адыгрываюць дэкламатарскія, тэатральныя і песенныя конкурсы, якія арганізуе БГКТ. Пазней размова накіравалася на адносіны БГКТ і ўлад горада Беластока. Валянціна Ласкевіч сказала, што ўлады не заўважаюць мерапрыемстваў іхняй арганізацыі. Таксама многа эмоцый (і хіба наймацнейшых) узбудзіла справа штатаў для працаўнікоў беларускай культуры і памяшкання па вуліцы Варшаўскай 11. Будынак БГКТ і далей задоўжаны на 800 мільёнаў старых злотаў. Дарэчы, калі завадзілася размова пра грошы, старшыня БГКТ адзначаў, што на Беласточчыне пражывае трыста тысяч беларусаў. У самім Беластоку, паводле Сычэўскага, пражывае сто тысяч „прадстаўнікоў" беларускай меншасці. Гэта, на думку старшыні БГКТ, падстава, каб годна фінансаваць беларускую культуру, якой, дарэчы, БГКТ як адзінае займаецца.

— Апошнім часам, — гаварыў ён, — і так праца нашай арганізацыі больш аптымістычная. Раней мы адчувалі, што нас вызначылі для знішчэння.

**Ганна Кандрацюк**

## У Гайнаўцы

Каб належным чынам прыняць польска-беларускую міністэрскую дэлегацыю, Канстанцін Майсеня падняў на ногі гайнаўскі актыў. Пані Ёля прыйшла спецыяльна на працу падвечар, нарыхтавала салодкае, каву і гарбату. Мужчыны ўстаўлялі ў бібліятэцы сталы і крэслы, каб было і прыгожа, і як найбольш выгадна дыскутаваць.

Музейны „Рафік" прывёз з Беластока гасцей каля пятай. Чакалі іх таксама пані бурмістр і старшыня Гарадской рады Якуб Астапчук.

Традыцыйна, пачалося ад вандроўкі па музейных будынках, адзін з якіх ад даху да падвала заліла вада. Спадары Бісяк і Завіша засталіся наверсе чакаць беларускіх калег, якія добрую гадзіну хадзілі за Канстанцінам Майсенем і ўсё здзіўляліся, колькі працы, заангажавання ўкладзена ў гэтую аграмадную задуму. Калі скончылі агляд, ніякай дыскусіі не адбылося. Пані бурмістр забрала гасцей, бо яны і так былі спозненыя.

Увечары ўбачылі яны яшчэ Свята-Троіцкі сабор і сустрэліся з дырэктарам Гайнаўскага дома культуры Мікалаем Бушко, які распавёў ім аб працы сваёй установы, асабліва пра Фестываль царкоўнай музыкі. Затым падаліся ў Белавежу адпачыць.

## У Бельску

Наступнага дня ў Бельск крыху прыпазніліся. У Пачатковай школе н-р 3 чакалі іх, хаця мэты прыезду не ведалі. Даналіся з вуснаў спадара Бісяка, які, выслухаўшы інфармацыю дырэктара Ляшчынскага пра „тройку", сказаў:

— Нашы госці не прыехалі сюды, каб дапамагаць развязваць балячкі беларускага жыцця на Беласточчыне. Яны хочуць прыглянуцца адносінам нашай дзяржавы да нацыянальных меншасцей. Дык калі ласка, не гаварыце пра беларускія справы, а дапамажыце задумацца над генеральнымі праблемамі. Я прашу вас сказаць, як па-вашаму мае выглядаць сітуацыя нацыянальных меншасцей, што яшчэ трэба змяніць у законах, што зрабіць, але для ўсіх, глабальна.

Адказала яму дырэктар беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча Зінаіда Навіцкая:

— Мы тут не дапаможам у распрацоўцы міждзяржаўных дамоваў ці ў развязцы праблем, якія могуць вырашацца толькі ўладамі. Мы можам адно паказаць сваё жыццё і працу.

Прадстаўнікі польскага Міністэрства культуры і мастацтва падкрэслівалі факт вельмі добрага супрацоўніцтва з беларусамі, як з Рэспублікай Беларусь, так і меншасцю на Беласточчыне. Няма тут такіх гістарычных абумоўленасцей, як з украінцамі ці немцамі.

— Але і тут не абыходзіцца без цяжкасцей, — казаў дырэктар Бісяк, — ёсць розныя канцэпцыі развіцця беларускай культуры. Каторыя мы маем падтрымліваць? Што больш важнае, Музей у Гайнаўцы ці Беларускі цэнтр культуры ў Беластоку?

Васіль Ляшчынскі сказаў, што адно другому не мяшае. А ў справах культуры міністэрства павінна не ствараць новыя з'явы, а падтрымліваць усе сэнсоўныя задумы.

Дырэкатр Бісяк, пры нагодзе сустрэчы, не забыў зазначыць, што „Ніва" не выконвае вызначанай ён функцыі, што паглынае вялікія грошы і мае мізэрны тыраж. Пасля чаго ўсе падаліся на абед. А пазнаёміўшыся яшчэ з белліцэем і Бельскім домам культуры — у Варшаву.

**Мікола Ваўранюк**



*Старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі і віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Русакевіч.* Фота Сяргея Грынявіцкага

# Хай святло Хрыстовага Уваскрэсення засвеціць нам усім у нашых сэрцах

*(Працяг са стар. 1)*

но. Мы гаворым, каб паміж намі не было варажнечы. Што ў нас супольнае — прымаем, чым рознімся — заносім у пратакол разыходжанняў, даем багаслоўям на абмеркаванне. Колькі разоў у Польшчы быў папа, я спатыкаўся з ім, цалаваўся, даваў падарункі. Ён таксама даў ахвяру на Грабарку, у Беластоку прасіў прабачэння за тое, што здарылася, казаў: „Госпадзе, прабач і благаславі". Таксама спатыкаюся з прымасам, пішам сабе прывітанні з нагоды святаў, гаворым шчыра, як хрысціяне, не як дыпламаты.

Але ж, як я памятаю Беласточчыну, там таксама ніхто не абражаў нічыіх рэлігійных пачуццяў. Не здаралася, каб на першы дзень каталіцкага Вялікадня сусед-праваслаўны вывозіў гной. І наадварот. Якую іншую сабе работу шукалі. Людзі ж сядаюць у адзін аўтобус, вядзе яго каталік, а кандуктар праваслаўны. І пасажыраў па палове, дык за што ж ім сварыцца, біцца, калі ў іх адна мэта.

**— У Польскай Аўтакефальнай Царкве розныя нацыі. Якія мовы выкарыстоўваюцца ў літургіі, пропаведзях, чытанні Евангелля?**

— У нас літургічная мова — царкоўнаславянская. Можа яна быць з розным выгаварам, беларускім, расейскім, украінскім, як і балгары ці сербы маюць сваю вымову. Пропаведзь павінна быць на мове маці, таксама навучанне закону Божага. Паколькі мы грамадзяне Польшчы, то ў нас пераважае польская мова. Па-польску часта чытаецца Евангелле і гаворыцца пропаведзь для маладых людзей. Гасподзь — тварэц усіх моў, усе мовы разумее і не патрабуе перакладчыка. Але царкоўнаславянская мова адзіная, у якой няма брыдкіх слоў. Таму яна і царкоўная, святая. З нацыяналізмамі няма чаго сунуцца ў Царкву. Паглядзіце толькі, што нарабілі ў сябе украінцы.

Царква, гэта Хрыстовая ўстанова. Яна мусіць быць па-за ўсякай палітыкай. Бяда, калі дзяржава, палітыка ўмешваюцца ў Царкву. Былі розныя часы. Застаўлялі нават супрацоўнічаць святароў з органамі дзяржаўнай бяспекі. Трэба памятаць, што святар прысягае і калі ён здрадзіць тайну споведзі, ён больш не святар. І тут няма прабачэння на зямлі, яго будзе судзіць Хрыстос на Страшным судзе. Таму Царква мусіць быць святая і беззаганная. Для ўсіх, для добрых і тых грэшных. Гасподзь, вітаючыся з грэшнікамі, казаў: не здаровы патрабуе дохтара, а хворы.

**— Дзякую за размову. Што Вы, Уладыка, пераказалі б нашым чытачам, чаго б ім пажадалі з нагоды найбольшага свята хрысціян — Вялікадня?**

— Дарагія браты і сёстры. Хай святло Хрыстовага Уваскрасення засвеціць нам усім у нашых сэрцах. Каб мы адзін аднаго любілі, каб мы адна́віліся, каб мы памяталі аб нашай Маці-Царкве, аб нашых бацьках і маці, аб дзядах і бабулях, каб успомнілі нашых продкаў, ад якіх атрымалі мы нашу праваслаўную веру. Каб мы ім у царкве, а потым на магілках сказалі „Хрыстос Уваскрос". А яны нам адкажуць, калі мы пяройдзем цераз дзверы тымчасовасці ў вечнасць.

З верай і надзеяй святкуючы, будзем радавацца. Як гаворыцца ў царкве: „ужо цяпер не царствуе грэх, а жыццё". Амін.

Інтэрв'ю ўзяў **Мікола Ваўранюк**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Вершы Віктара Шведа

### Вялікдзень

Азвалася ранкам Ната,
Убачыўшы свет боскі:
— У снезе хіба будуць Святы,
Паедзем зноў у вёску.

Вятрыскі снегам свет задулі,
Бялютка на падворку.
Здаецца, буду я ў бабулі
З'язджаць на санках з горкі.

### Дзе ж падзелася вясна?

— Цэлы свет у снезе знік, —
Ната анямела.
Хоць і маем красавік,
За акном зноў бела.

— Дзе ж падзелася вясна?! —
Запытала Ната. —
Ляпіць будзем балвана
У Вялікдзень, тата!

### З неба ўпалі хмары

Зіма цягнецца бясконца,
Хоць і грэе крыху сонца,
Хоць бывае дзень прыгожы,
Ды прагнаць зіму не можа.

Зямля зноўку анямела,
Сталася празрыста-белай.
Адазвалася Тамара:
— Ноччу з неба ўпалі хмары.

### Чорт прынёс бабулю

Бабулю запытала Уля:
— Чым ты прыехала, бабуля?
— У ваш гасцінны надта дом
Прыехала я цягніком.

Унучка гэтаму пярэчыць:
— Прыехала ты іншым нечым.
Тата сказаў: „Паганы лёс,
Цешчу ізноўку чорт прынёс".



*Фота Аліны Ваўранюк*

## Гарады Беларусі

У Сярэдневякоўі беларускія гарады, якія былі цэнтрамі гандлю, вытворчасці, культурнага жыцця, а таксама, з увагі на акружаючыя іх муры, адыгрывалі абарончую функцыю. У XIV-XVI стагоддзях шмат беларускіх гарадоў атрымала магдэбургскае права, якое раней вызначыла юрыдычны парадак у большасці заходнееўрапейскіх гарадскіх цэнтраў. Найкарацей кажучы, магдэбургскае права абазначала дазвол вялікага князя на стварэнне сістэмы самакіравання ў гарадах.

Магдэбургскае права давала прывілеі і льготы, якія ў цэласці спрыялі эканамічнаму развіццю гарадоў. Напрыклад, дазвол на міжнародны кірмаш тавараў прыцягваў купцоў з цэлай Еўропы, якія не толькі куплялі мясцовыя тавары, але таксама недзе вымушаны былі начаваць, харчавацца, карміць сваіх коней. За ўсе гэтыя паслугі плацілі беларускім мяшчанам.

Згодна з магдэбургскім правам гарадское кіраванне ўзначальваў войт, якога назначаў вялікі князь. Ролю гарадского парламента выконвала рада, якая складалася з 15-20 мяшчанаў. Судовы орган па крымінальных справах называўся лавай, а суддзі — лаўнікамі. Штодзённымі справамі гарадоў кіраваў бурмістр. Быў ён як бы шэфам адміністрацыі. Бурмістра назначала рада.

Кожны князь быў зацікаўлены ўмацаваннем самакіравання гарадоў, бо такая форма ўлады вяла да ўзбагачэння мяшчан, а толькі багатыя мяшчане маглі плаціць вялікія падаткі.

Першымі беларускімі гарадамі, якія атрымалі магдэбургскае права былі Вільня (1387 г.) і Бярэсце (1390 г.).

## Пішуць школьнікі

**Добры дзень, дарагая „Зорка"!**

Я — вучаніца VII класа Пачатковай школы ў Курашаве. Хачу вам расказаць, як мы сустрэліся з вучнямі з Нарвы. Найперш мы прывіталі сваіх сяброў ды пачаставалі іх пірагамі, гарбатай і яблыкамі. Пазней дзеці з Нарвы выступалі са сцэнкай „Першыя крокі самастойнасці" і заспявалі прыгожую песню. Мы яшчэ доўга разам танцавалі. Гэта сустрэча надоўга застанецца ў нашай памяці.

Аля Трусевіч

## Веснавыя загадкі
### (№ 3)

1. Без ног а бяжыць.
2. Зароў воўк на сто гор, на сто рэчак, на сто печак.
3. Ляціць арліца па сіняму небу, крылы распластала, сонца заслала.

Адгадайце загадкі і дашліце іх у „Зорку". Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем узнагароды.

Рашэнне „Зімовых загадак": зіма, сняжынкі, снег. Узнагароды — каляровыя алоўкі — выйгралі:

1. **Марта Сельвясюк** з Махнатага,
2. **Дыяна Яканюк** з Нарвы.

Віншуем!

## Аб'явы

Усіх карэспандэнтаў, якія даслалі вершы пра зіму інфармую, што іх вершы будуць надрукаваны ў перыяд наступнай зімы.

* * *

У крыжаванцы № 12 пасялілася памылка. „Gatunek literacki" гэта „жанр", а не „жанар", як выходзіць у крыжаванцы. Усіх чытачоў прашу прабачэння.

Зорка



*Нашы сябры з Курашава.*
Фота Ганны Кандрацюк

## Легенды Беластоцкай зямлі
# Святая вада

Тутэйшыя людзі любяць зглядаць у мінулае вачыма легендаў. Возьмем хаця б мястэчка Васількаў, што каля Беластока. Тут любы старажыл на пытанне, што яму вядома пра паўстанне ягонай прыгожай мясцовасці, ахвотна расказа вам вось такое паданне пра двух братоў.

Калі тое было, сказаць цяжка, але напэўна вельмі-вельмі даўно. Тады тут прасціралася дрымучая пушча, а ў ёй кішма кішэла ад мядзведзяў, рысяў, ваўкоў і іншых звяроў. На паляне ж стаяла крэпасць, а ў ёй жыў князь са сваёй дружынай. Жывіліся яны тым, што ў пушчы ўпалявалі, або на вялікай дарозе ў купцоў адабралі ці ў суседніх княствах нарабавалі. Хаця ў княскіх кладоўках сундукі ад золата, дарагога камення ды іншага дабра аж трашчалі, але хціваму князю-рабаўніку ўсяго гэтага было мала ды мала.

У князя-разбойніка быў родны брат. Жыў ён недзе далёка і таксама княжыў у заможнай краіне. Правіў сваім княствам мудра і справядліва: ні свайго, ні чужога не крыўдзіў. Ягонае княства было прыстанішчам для пакрыўджаных і апірышчам суседзям ад напасцяў злачынцаў. Аднойчы наведаўся да брата ў гасціну князь-разбойнік. Яго зайздроснае вока аж загарэлася, пабачыўшы, што брат у раскошы жыве, быццам сыр у масле качаецца. І замак у яго пышны, і ўладанні абшырныя з мноствам заможнага і шчаслівага люду, а золата, дарагога камення і другіх скарбаў — не злічыць. І запалала ненасытнае сэрца князя-разбойніка нястрымаю прагай заграбастаць усё гэта сабе.

Думаў ён, думаў, як авалодаць братавым багаццем, і прыдумаў. Ад'язджаючы дадому, запрасіў брата да сябе ў гасціну, а свайму знахару патаемна загадаў нарыхтаваць такога зелля, каб і брат, і ягоная дружына незаўважальна для саміх сябе выпілі яго ды паснулі доўгім непрабудным сном. Затым свайму кату даў заданне: усіх спячых асляпіць, дружыне ж — вывесці сляпцоў у самую далёкую пушчанскую глухамань і там пакінуць, каб іх зверы паразрывалі, або каб яны галодней смерцю сканалі. Ён жа тым часам захопіць брата ва княства з багаццямі і насельнікамі і такім чынам павялічыць свае ўладанні.

Як задумаў разбойнік, так і ўчыніў.

Апынуўся сляпы князь са сваёй невідушчай дружынай у лясной чашчобе. Пабраліся яны, лямантуючы, за рукі і намагаліся выкараскацца з яе на якінебудзь шлях. Але ж куды ні ткнуцца — усюды пушчанская крэкаць. Доўга ці коратка яны гэтак прабавалі ратавацца ад смерці, а ўсё круціліся ўкруг ды навокала. Выбіліся з сілы, пападалі і паснулі ад знямогі. Як папрачыналіся, дык зноў пабраліся за рукі і вобмацкам сіліліся ратавацца ад бяды. Аднак ні іхняе натужанне, ні роспачны крык не аблегчылі становішча. І яны, галодныя і халодныя, сталі маліцца, просячы Бога пра смерць, каб яна як мага хутчэй закончыла іхнія пакуты. Тады наймалодшы грыдзь* раптам адчуў, што ягоную акасцянелую ад сцюжы руку далікатна ўзяла нечая цёплая рука, і спакойны голас прамовіў: „Вашы малітвы пачуты і ласка Гасподзя з вамі. Скажы сваім сябрам па няшчасцю, каб яны трымаліся адзін другога і ішлі за табою. Ты ж ідзі за маім голасам".

Калі грыдзь заклікаў сваіх сяброў ус-

# У Кнарыдах

Сёння пазнаёмімся з вучнямі Пачатковай школы ў Кнарыдах. Найперш заглянем у вёску. Напрадвесні выглядае яшчэ яна сонна і сурова. Па баках абледзянелай дарогі многа снегу. У вёсцы амаль паўтысячы жыхароў. Пераважаюць драўляныя забудовы. У мясціне два магазіны, царкоўка, пажарнае дэпо, бібліятэка і школа. Кнарыды распалажыліся ў 10 кіламетрах ад Бельска-Падляшскага. Лёгка сюды трапіць, бо вёска ляжыць на трасе Беласток — Люблін.

У Кнарыдах вучацца дзеці з многіх вёсак, між іншым з Пілікаў, Мокрага, Дабраміля, Дубяжына, Падбелля, Казлоў, Раек, Левак. На школьным перапынку чуваць польска-беларускія размовы. У школе ўсяго 80 вучняў. Ад гэтага года пачалося тут ізноў навучанне беларускай мове. Пішу „ізноў", бо навучанне было нейкі час спынена, а зараз пасля амаль дваццацігадовага перапынку адрадзілася. Заслуга ў тым перш за ўсё дзяцей з **Дубяжына**, якія прынеслі са сваёй школы пашану і цікавасць да роднай мовы. Разам з імі перайшоў і славуты лозунг: **„Сіла народа ў яго інтэлігенцыі"**.

— Гэтыя словы, — гаворыць настаўніца Надзея Аврчук, — мы запазычылі ў Сакрата Яновіча. — А зараз, — дадае яна, — далучылі да нас і дзеці з Кнарыд, Казлоў.

Цікава было паслухаць, як трохкласнікі (якіх у беларускай групе найбольш) гаварылі пра патрэбу вывучэння літаратурнай мовы.

— Я прачытаў вершы Юркі Баены, — гаворыць **Патрык** з малодшай групы, — і таму запісаўся на ўрокі беларускай мовы.

Дарэчы, Юрка Баена сам родам з Мокрага, што ў трох кіламетрах ад Кнарыд.

Вучні з Дубяжына ўспаміналі таксама незабыўную сустрэчу з Віктарам Шведам. Андрэй Бандарук, Кася Ярашэвіч і Юліта Тамашук сказалі для „Зоркі" вершы. Іншыя паабяцалі „заблішчэць" у час наступнай сустрэчы.

— Школа мае ўсе неабходныя абсталяванні, — сказаў дырэктар Сцяпан Стральчук, які працуе тут дзесяць гадоў. — У нас ёсць два тэлевізары, відэаапаратура, войт абяцаў пабудову спартыўнай залы.

У Кнарыдах ёсць надзея, што школа будзе трывацъ і развівацца. Праз два-тры гады зноў прыйдзе немалая група дашкольнікаў. Затым — да наступнай сустрэчы, мілыя сябры з Кнарыд!

**Зорка**

*Беларуская група ў Кнарыдах. Разам з моладдзю — Надзея Аврчук і Сцяпан Стральчук.* Фота Ганны Кандрацюк

## *Вучнёўская творчасць*

### Вясна

Ура! ура! ура!
Вясна да нас прыйшла!
Прыйшла і заспявала,
як птушкі ў цудоўны дзень.

Расце трава, цвітуць прыгожа кветкі,
сонейка моцна свеціць на зямлю,
на двары гуляюць дзеткі,
вясёлым смехам вітаюць вясну.

Вясна — напрыгажэйшая пара года,
паветра чыстае, хочацца жыць.
Усім здараецца нагода
слухаць птушак, вясне „служыць".
Ветрык, многа птушак,
кветак поўны лес.
Крычым усе: „Ура! ура! ура!
Вясна да нас прыйшла!"

### Важнае і найважнейшае

Усё важнае:
свая радзіма, свой родны кут,
сям'я, сяброўка, жыццё,
шчасце, прырода; але гэта не ўсё.
Важная і родная мова.
Беларуская мова, бацькоўскае слова!
Многа паэтаў пісала пра „тое"...
Стварылі народу гэта, што дарагое!..

**Аня Садоўская**
**VII кл. ПШ у Нарве**

## Польска-беларуская крыжаванка № 15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Siano, Willa, Zamiana, Nos, Noc, Rosa

**Адказ на крыжаванку № 10:** лава, сакавік, дудар, дата, рада, кут, лада, сава, вір, мак.

Узнагароды — альбомныя запісныя кніжкі (segregatory) — выйгралі:

1) **Аня Таранта**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, кл. III „ц", 2) **Кася Ламашкевіч**, ПШ у Нараўцы, 3) **Юліта Башун**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, кл. III „ц", 4) **Эдыта Лаўрыновіч**, ПШ у Махнатым, 5) **Юстына Юрчук**, ПШ у Нурцы, 6) **Андрэй Таранта**, кл. V „е", ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

**Віншуем!**

Жараб'ёўку ўзнагарод правялі дзеці з ПШ у Кнарыдах.

# Школьная крыжаванка

Адгадайце лозунг і дашліце яго ў „Зорку". Гэту крыжаванку склала і даслала **Івона Артэмюк**, вучаніца VII кл. ПШ у Курашаве.

- Старонка для дзяцей.
- Зімой грэюць рукі.
- Разам з татам.
- У ім пішуць на ўроках.
- Апошні месяц зімы.
- Айчына беларусаў.
- Малая рыба.
- Сярод агародніны.
- Імя рэдактар „Зоркі".
- Шосты месяц года.

Талон „Зоркі" № 15
14.04.1996

таваць і ісці за ім, паднялося ўсяго некалькі чалавек, другія ўжо страцілі веру ў выратаванне. Юнак доўга пераконваў няшчасных, і толькі калі князь сказаў, што трэба ісці, то яны неяк звалакліся са сваіх логаваў і пайшлі за грыдзем. Але сумненням і нараканням не было канца: ад стогнаў і лямантаў аж пушча гула. Таямнічы ж голас вёў маладога воя ва ўсё болей непралазную нетру. На кожным кроку спатыкаючыся і падаючы, нават і ён усумніўся ў паратунку.

У тую хвіліну яго балючую ад стрэмкаў і задзёраў руку зноў кранула ласкавая таемная рука, а ціхі голас загадаў: „Стань на калені і перахрысціся". Калі грыдзь выканаў загад, голас працягваў: „Перад табою крыніца з гаючаю святою вадою. Пачарпні яе і прамый акалечаныя вачніцы* сабе, а потым усім тваім сябрам".

Як грыдзь першы раз пачарпнуў жменьку вады і прамыў сабе заструпелыя вачніцы — адразу ў іх прасвятлела, калі прамыў іх другі раз — убачыў наваколле бынцам у імгле, а спырснуўшы трэці раз — заяснеў яму свет усімі сваімі чароўнымі фарбамі. Яго радасці не было ні канца, ні меры. Асвоіўшыся са сваім шчасцем, ён успомніў пра свайго таямнічага выратавальніка. Азірнуўся ў адзін бок, азірнуўся ў другі, а таго нідзе і следу няма! І тут зразумеў грыдзь, што гэта быў пасланец Усявышняга, Які злітаваўся над няшчаснымі. Упаў вой на калені і горача падзякаваў Богу. Затым стаў падводзіць да крыніцы сяброў і прамываць ім гаючай вадою вочы. Аслепленых было многа, і вада ў крыніцы хутка вычарпалася. Сляпыя заенчылі, залямантавалі, самымі страшнымі праклёнамі абсыпалі грыдзя і тых, хто ўжо стаў відушчым.

Малады грыдзь разгубіўся, не ведаў, што рабіць. Ды зноў пачуўся знаёмы ўжо яму таямнічы голас: „Маліцеся, прасіце ў Бога і будзе вам дадзена". Вой суцішыў раз'ятраны натоўп сляпцоў, сказаў стаць на калені і горача маліцца пра ласку ў Госпада. Пушчу агаласіла малітоўнае благанне абяздоленых. Колькі доўжылася яно, столькі вады ў крыніцы прыбывала. Гэтак дзякуючы шчырай малітве няшчасныя атрымалі аздараўленне.

Што было пасля? Аздароўленыя князь з дружынаю пабудавалі над цудадзейнаю крыніцаю капліцу і назвалі яе Святою Вадою. Воддаль ад святыні, дзеля яе аховы, пабудавалі крэпасць і хацелі назваць яе імем свайго князя. Князь, аднак, не згадзіўся і сказаў, што на ўвекавечанне заслужыў не ён, увёўшы ў такую бяду столькі людзей, але ўдастоіўся малады грыдзь, што выратаваў іх усіх ад пэўнай пагібелі. Таму новай крэпасці далі назву Васількаў, бо маладога дружынніка Васількам звалі.

А які ж быў лёс князя-разбойніка? Ягонае прагавітае нутро не здаволілася ўчыненым злачынствам над родным братам і захопленым чужым багаццем. Ён з яшчэ большай раз'юшанасцю забіваў і калечыў бязвінных людзей ды рабаваў чужое дабро. Аднойчы натыркнуўся на мацнейшых за сябе і загінуў на шыбеніцы.

Вярнуўся аздароўлены князь-дабрадзей з дружынаю ў вольнае сваё княства і па-ранейшаму ўсё там зажылі шчасліва. Грыдзь жа Васілька сабраў сваю дружыну і стаў княжыць у крэпасці ля Святой Вады.

І з розных бакоў і краін пайшлі да святое вады паломнікі з надзеяй пра паратунак і атрымлівалі аздараўленне па сіле свае веры і палымянасці малітваў. Ідуць яны і сёння, хаця і заўладалі гэтай святыняй праваслаўнай святыняй каталікі. Але той, хто з непахіснай верай і шчырай малітвай прыходзіць да жыватворнай крыніцы, той атрымлівае дапамогу, так праваслаўны, як і католік, як і іншай веры чалавек.

Пачуў і пераказаў **Мікола Гайдук**

*Вачніцы* — паглыбленні ў пярэдняй частцы чэрапа, дзе змяшчаюцца вочы.
*Грыдзь* — колішні салдат, ваяўнік, дружыннік, вой.

Jan Leończuk

# Zaledwie wstęp do referatu: „Niwa” w oczach inteligencji polskiej”

Nie poczyniłem żmudnych badań, które pozwoliłyby na obiektywizację tematu, stąd nie pojawiają się w moim wystąpieniu żadne cyfry ani prognozy, nawet gdybyśmy przyjęli, iż zainteresowanie problematyką białoruską przez inteligencję polską jest nikłe. Nie biorę pod uwagę tematów, które mają spełniać rolę przysłowiowego kija wkładanego w mrowiska a które wywołane obojętnie przez którą ze stron — mają spełnić ich doraźne, niezbyt czyste w intencjach, zadania. Prowokacyjny ton wielu publikacji zmierza ku tzw. gettyzacji, tworzenia wokół tematów muru nieufności, który często dla wywołującego ma być alibi dla nieróbstwa i braku jakichkolwiek koncepcji wspomagania czy też rozwijania kultury własnego narodu, wszak w odgłosach toczonych „wojen” obowiązują prawa stanu wyjątkowego. Zwalnia to wielu działaczy z codziennej, żmudnej pracy nad wzmacnianiem kondycji własnej kultury i własnej tożsamości. Istnienie sąsiada traktowane jest jako zagrożenie a nie element do dobrosąsiedzkich kontaktów. Na szczęście te uwagi nie dotyczą tygodnika „Niwa”.

Wielkorotnie doznałem, znanych z praktyki wojskowej, prób zaczepnych. W jednym z miesięczników białoruskich zostałem nazwany szowinistą polskim i donos kończył się retorycznym z pozoru pytaniem: jak taki szowinista może pracować na wyższej uczelni i kształtować... W jednym z ostatnich numerów pojawił się *Zapiśnik rolnika* (w nawiązaniu do *Zapiśnika* mojego pióra, prowadzonego od lat na łamach „Kontrastów” i na antenie Polskiego Radia). I można byłoby tę zaczepkę przyjąć jako zabawę, choć w podpisie figuruje Leon Janończuk, gdyby nie miałkość prezentowanego tekstu. Ktoś może odebrać następująco: oto Leończuk szukający porozumienia z braćmi Białorusinami począł zapełniać łamy miesięcznika białoruskiego swoimi zapiskami. Mogę tylko oświadczyć, iż nie jest to mój tekst i nie ukrywam się pod żadnym z pseudonimów i dopowiedzieć mogę żalem, że na tak prymitywne zaczepki nie będę odpowiadać (i znowu odwołuję się do żadń z pierwszego akapitu mojej diagnozy).

Nie zawsze sprawdza się w życiu ludowy sposób podrywania poprzez tzw. szczypanie. Sińce nie zawsze chcą być oznaką miłości. Nie zawsze musi ze sobą spotkać się sadysta z masochistą. A i podejrzliwość czytelnicza nie musi być najwłaściwszym odbiorem. Zasada, że nie ważne jest jak o mnie mówią, byle tylko mówili — jest z założenia fałszywa, rujnuje często to, co z tak wielkim wysiłkiem budowane było przez lata. Zdaję sobie sprawę, iż nie chodzi o fałszywą z gruntu zasadę, mówiącą o tym, że wszystkim trzeba kochać jednako. Inaczej kocha się własną matkę, a inaczej matkę sąsiada. Ważne, żeby chcieć i móc kochać. I aby w tym stanie ducha odnajdywać wspólne koleiny losu. I temu przesłaniu, jak mi się zdaje, „Niwa” wiernie służyła przez czterdzieści lat. I to niechaj będzie pierwszym wnioskiem wypływającym z tematu oceniającego tygodnik białoruski. Tych wspólnych kolein szukają i szukać będą polscy czytelnicy.

* * *

„Białoruś, Białoruś. Dlaczego nazywasz się Białoruś, jeśli nie masz w sobie bieli, jeśli bielą twoją są rżyska jesienne, jeśli bielą twoją są postawy szarego płótna wyłożone na słońcu, jeśli bielą twoją jest gorący pot umęczonych ludzi. Powinnaś się nazywać Dobruś, powinnaś się nazywać Dobrą Ziemią Dobrych Ludzi. (...) Białorusi, Białorusi szarozielona z ogromnym niebem pod płową głową, za dobra, za łagodna, za szlachetna jesteś na nasze czasy” — pisał przed laty w ankiecie rozpisanej przez „Niwę” Tadeusz Konwicki. Jako Polak nosiłem w sobie zdania Konwickiego, wierzyłem w każde słowo wypowiedziane przez pisarza. Nakładałem w wyobraźni z pożółkłych zszywek „Niwy” fotografie Józefa Rybińskiego i Włodzimierza Pawluczuka, dopełniałem strofami poetyckimi Michała Szachowicza i Jana Czykwina, jak rachunek sumienia powracały całe kwartały zdań prozy Sokrata Janowicza i Jurki Geniusza, pełne bólu i pytań o dalszy los, o porzucane w cywilizacyjnym pędzie domowe progi. Tamte wiersze i tamte fotografie rekonstruowały Ojcowiznę, nadawały jej ludzki wymiar. Jednały, bez kompleksów, progi naszych domostw. I „Niwa” próbowała towarzyszyć podeptanej w cywilizacyjnym pędzie kulturze agrarnej. Nie czyniła, wstydliwości pełnych, umizgów i ucieczek. Obrazki wiejskie, pełne malowniczości, jakby miały obudzić patrzących już z wysokości balkonu wieżowca białostockiej metropolii, potrzebę pielgrzymowania do świętych domów progów. I zawsze mnie, jako Polaka wierność wartościom podstawowym, jakby na przekór najprzeróżniejszym trendom, zastanawiała i wzruszała. „Niwa” jako pismo informacyjne, pełna urokliwych drobiazgów, towarzyszyła ludziom w ich codziennym znojnym życiu, nie pędziła ślepo zapatrzona w Zachodnie Wiatry. Była wraz z tymi, którzy pozostali na wsi, patrząc tęsknie w horyzonty zza których miały się wyłonić, dawno odeszłe na lżejszy chleb, dzieci. Poświęcała też sporo miejsca tym, którzy byli za horyzontami i czuli jeszcze wewnętrzną potrzebę kontaktu z bliskimi. Wzruszała mnie wierność pisarzy tym tematom, którzy czują więcej i widzą dalej. Nie był to tylko los i dramat zarazem „pierwszego pokolenia wyzwoleńców”.

Czytałem „Niwę” w latach siedemdziesiątych regularnie, pisałem wraz z Michałem Szachowiczem na jej łamach cykl folklorystycznych notatek zatyt. „Z narodnaj abradnaści”. Pisałem także artykuły krytyczne na temat literatury białoruskiej, recenzowałem płody twórców białoruskich. Służyłem tej literaturze przyswajając literaturze polskiej twórczość Szachowicza, Artymowicz, Geniusza, Czykwina, Janowicza, aktualnie pracuję nad przekładami wierszy Wiktora Szweda i Danuty Biczel-Zahnietawaj. Tamtych, sprzed iluś tam laty, miłości nie da się łatwo zapomnieć. Pozostały pożółkłe kartki notatek, stare fotografie, dedykacje — tamta Dobruś, kreślona ręką Konwickiego a przeze mnie skosztowana, jakby się oddalała, stawając się inną, pełną pomruków, pretensji, animozji. Przystawałem przed redakcyjną gablotką aby przeczytać co nieco, aby ukoić dawne tęsknoty. I cieszyłem się, już z oddalenia, że tygodnik żyje, i nadal towarzyszy swojemu narodowi, a nam, Polakom, nie wytacza armat, nie oczekuje pogromu prasowego, który pozwoliłby albo włożyć na skronie koronę męczeństwa zadanego przez Polaków albo wywołując pogrom prasowy — zaczepkami i tzw. podszczypywaniem, postawić jeszcze jedną betonową ścianę — nieufności i bólu zapiekłego. I w jubileuszowych fanfarach nie wypada pisać o zadrach, nie chciałbym powracać do ostatniego mojego spotkania w „Niwie”. Ot, niechaj czas i zapomnienie pochłonie tamten epizod. Potem pękły okowy Ministerstwa Spraw Wewnętrznych, popękały też w tym ogólnym rachunku sumienia. I tego procesu pewnie nikt nie przewidział. Niezahartowane wnętrza myliły podstawowe definicje, skażone marksistowskim tętnem, rozbite w aurze wolności dekalogowe tablice powiększały jeno rozziew, sprawiały, iż człowiek człowiekowi stawał się coraz częściej wilkiem. Czasami pytano mnie o moje uczucia skierowane wobec literatury białoruskiej, stawiając pytania o moją narodowość — a ja nie chciałem dzielić literatury. Nie chciałem też wyrzucać na śmietnik wartości, którym, tak samo jak literatura polska, winna służyć literatura białoruska. Język nie dzielił, wzbogacał przesłanie, które winno płynąć ponad drobnymi różnicami, nie powinien burzyć inności, którą nieśliśmy w sobie od narodzin. Umieliśmy się „pięknie różnić”. I we wstępie do niewygłoszonego referatu, chciałbym podziękować „Niwie”, i jej redaktorom, że starała się omijać najprzeróżniejsze rafy pojawiające się w stosunkach polsko-białoruskich.

Kiedyś wśród zbolałej ciszy szpitala — wróciłem do czasów mojej młodości i pierwszych prób budowania pomostów. Pani Wiera obdarowała mnie książką wspomnieniową pióra swojego męża, a jednocześnie pierwszego i długoletniego redaktora naczelnego tygodnika „Niwa”, Jerzego Wołkowyckiego. I znowu poczęła się we mnie wpisywać rzetelnością przekazu moja Dobroruś. I proszę wybaczyć zbyt osobisty ton wypowiedzi i włóczenie się po obrzeżach pamięci. W stanie wojennym, w „Niwie” nabywałem i u pisarzy białoruskich samizdaty. Potem ukrywane w stodole, w konwiach po mleku, czekały zgodnie leżąc z polskimi na czas wolności. Czasami pojawiały się „plamy” również na samizdatach — nie zapomnę, choć bardzo bym pragnął, chory, pełen nienawiści wiersz o polskim papieżu, bez zdania redakcyjnego komentarza.

Wierzyłem, że wspólnie tęsknimy do wolności. I po latach stawiałem pytania, czym był Sierpień 1980 roku dla moich Braci Białorusinów? Dla odradzania się Cerkwi prawosławnej, dla ruchów narodowych, które nabrały w ten czas głębokiego oddechu? I potem tak szybko zapomniały. I znowu w miesięczniku zabrzmiał donośnie głos pisarza, wszak tak powinien on brzmieć, pełen chorobliwej amnezji: „Nadajeu mnie hety chamuła...”

I chciałbym jakąś modlitwą poetycką ująć pamięć wspólnego losu, wspólnych dramatów i wspólnych nadziei. I wspólnej walki z totalitaryzmem, w jakiejkolwiek odmianie i maści by on był. Mrok i światło przedzierają się przez dziennikarskie sensacje i poszturchiwania. Może czynię krzywdę „Niwie”, ale w tym miejscu powinienem raz jeszcze podziękować. I trzeba razem uczyć się wolności i razem jej bronić... Pustka pototalitarna nie może być wypełniana cieniem wroga, dopinać przysłowiowego mundurku chińskiego strachu przed imperializmem i ciągłej gotowości. Powstaje wtedy coraz większa przepaść i coraz większe nieporozumienie prowadzące do wrogości.

U wylotu ulicy Lipowej, napis na murze, w przeciwieństwie do innych napisów chcący coś wyrazić, wykrzyczeć może: „Żywie Biełaruś!”. I ktoś, po polsku, dopisał: „Ale co to za życie.”

„Most praz stahoddździ” — budowany przed laty z nadzieją (uczestniczyłem w jego budowie) — runął. I apel w tym kontekście może zabrzmieć jak późne zawołanie, ale tę prośbę kieruję tylko we własnym imieniu. I tych polskich czytelników „Niwy”, którzy nie jątrzą, ani, nie zważając na pomówienia, szukają porozumienia. I gdyby, choć w niewielkiej części, „Niwa” ukazywała się w alfabecie łacińskim, może te mosty stawałyby się łatwiejsze do przekroczenia.

Nie przemawia przeze mnie głos naukowca, który empirią docieka prawdy. „Niwa” pozostaje w mojej pamięci jako tygodnik, który pisarzom białoruskim zawsze z życzliwością towarzyszył. Jako prezes białostockiego oddziału Związku Literatów Polskich, skupiającego pisarzy nie tylko polskojęzycznych ale i białoruskich i ukraińskich, chciałbym serdecznie podziękować.

Życzę wielu lat służby swojemu narodowi, dziękując jednocześnie tym, którzy budują a nie rujnują. W pytaniach, które postawiłem i we wstępnych diagnozach może rodzić się odpowiedź, jeszcze nieśmiało wyartykułowana — jak odbierana jest „Niwa” przez polską inteligencję.

*(tekst wygłoszony z okazji 40-lecia białoruskiego tygodnika „Niwa” w dniu 2 marca 1996 roku).*

# Заваражыла іх праваслаўе...

**З Ежы ГЕРМАНОВІЧАМ, вядомым беластоцкім гісторыкам мастацтва, старшым выкладчыкам Аддзялення архітэктуры Беластоцкай політэхнікі гутарыць Ада ЧАЧУГА.**

*— Мінула ўжо трыццаць гадоў ад часу, калі Белавежа стала цэнтрам мастацкіх пленэраў беластоцкіх — ды і не толькі — мастакоў. Як усё гэта пачалося?*

— Трыццаць гадоў таму нашы беластоцкія мастакі рабілі шмат намаганняў, каб нешта арганізаваць тут, на месцы. Ежы Ленгевіч ездзіў нават у Эльбланг, шукаў там нешта новае, нейкую ідэю на пленэр. Справу падхапіў Мікалай Валкавыцкі, які толькі што закончыў Мастацкую акадэмію, а да таго паходзіў з такой прыгожай мясціны, як Белавежа. Менавіта ён запранаваў зрабіць Белавежу сядзібай мастацкіх пленэраў. Восенню 1965 года адбыўся першы пленэр, звязаны з жывапісам і скульптурай, і ад таго часу без перапынку працягваецца ён трыццаць гадоў.

*— Чаму менавіта Белавежу выбралі беластоцкія мастакі месцам сваіх творчых інспірацый?*

— Белавежа гэта унікальнае месца ў Еўропе з неспатыканым лясным комплексам. Пушча стала крыніцай натхнення мастакоў, а апрача таго, тут, у цішыні векавых дубоў, можна было спакойна рэалізаваць свае творчыя задумы.

*— У Белавежу на пленэры прыязджалі не толькі беластоцкія мастакі, але і з усёй краіны, а таксама шмат было мастакоў з усяго свету. З найдалейшага замежжа палюбілі Белавежу найбольш, здаецца, японцы. Ты, Юрэк, шэсць разоў быў камісарам Белавежскіх пленэраў. Каго вы запрашалі туды?*

— Камісарамі бывалі і Мікалай Валкавыцкі, і Зінкаў, і Ленгевіч, а запрашаць мы стараліся самых лепшых мастакоў, такіх, як Тадэуш Дамінік, Ян Тарасін, Раймунд Земскі — усе яны з Варшавы, Тадэуш Цесюлевіч і Уладзімір Лаймінг з Сопата, мастакоў з Францыі, Японіі, Грузіі, Літвы, Латвіі, Беларусі, Расіі.

*— Ці, так сказаць, не забіралі яны месца нашым, мясцовым мастакам?*

— Наадварот, сустрэчы з найлепшымі мастакамі, а таксама з мастакамі іншых культур шмат давалі беластачанам. Вучыліся яны нават інакш глянуць на тое самае дрэва, якое бачылі ўжо дзесяткі разоў, падглядалі тэхніку малявання, вучыліся ад старэйшых, больш вопытных.

*— Адным словам, Белавежа, пушчанская атмасфера, тутэйшыя людзі спрыялі кантактам між асяродкамі ў Польшчы і заграніцай?..*

— О-о! У Белавежу хацелі прыязджаць! Прыезджым Белавежа давала найбольш. Яны проста вар'яцелі ад захаплення. Уражвала іх прыгажосць Белавежы — яе старыя дубы, зубры, дух пушчы... Можна было хадзіць па запаведніку, аглядаць навакольныя дрэвы, знаходзіць астанкі мёртвых звяроў — усё гэта пазней было адлюстравана ў карцінах.

*— Як я заўважыла, асобным раздзелам у белавежскім краявідзе заўсёды была для мастакоў тутэйшая царква. У многіх працах, якія былі напісаны тут, адчуваецца клімат праваслаўя. Відаць круглыя купалы, праваслаўныя крыжы, клубы кадзіла, адчуваецца лагоднасць і спакой.*

— Так, царкоўныя, праваслаўныя матывы з'яўляюцца вельмі важным момантам, адлюстраваным у працах мастакоў-удзельнікаў Белавежскіх пленэраў. Спачатку цікавінкай для прыезджых была проста іншасць. Хадзілі на багаслужбу ў царкву і да бацюшкі кракавяне, варшавяне, японцы. Яны мне часта гаварылі, што гэта абраднасць багацейшая за каталіцкую. Заваражыла іх праваслаўе! Праваслаўная культура, беларусы з іх шчырасцю і гасціннасцю давалі ім інспірацыю для мастацкай творчасці. Можа, не раз знаёмства і пачыналася пры супольным застоллі, але сяброўства засталося на доўгія гады.

*— Нядаўна Бюро мастацкіх выставак у Беластоку наладзіла мастацкую выстаўку, прысвечаную 30-годдзю Белавежскіх пленэраў, а ты быў яе куратарам.*

— Па прапанове Манікі Шэўчык, якая з'яўляецца дырэктарам гэтага Бюро, я ўзяўся за справу і выбраў лепшыя, на маю думку, працы, якія знаходзіліся ў зборах галерэі „Арсенал” і Акругowага музея.

*— Працы гэтыя вельмі цікавыя. Можна іх глядзець і глядзець.*

— Я хацеў даць вобраз Белавежскіх пленэраў. Паказаць, перш за ўсё, беластоцкіх мастакоў — Мікалая Валкавыцкага, Ежы Ленгевіча, Стэфана Рыбі, Аліцыю Харожэй, Веслава Юркоўскага, Роберта Карата, Ежы Зінкава, Аляксандра Вэльса, Ежы Шыманюка.

*— Цудоўны быў „стары” Валкавыцкі!*

— Бо ён добры! Не ўсё на выстаўцы можна аглядаць і ўспрымаць. Я стараўся выбраць лепшае з намаляванага. На карцінах ёсць лес і звяры (жывыя і мёртвыя), людзі з асяроддзя мастакоў. Цікава, што мясцовых людзей няма, хаця ёсць моцны элемент праваслаўя. Герметычны свет абстракцыі і мастакоў. Шкада, што пленэр як пленэр паміpае.

*— Вельмі сумнае сцвярджэнне на канец...*

— Справа, як заўсёды, у грашах.

*— Праўда! Сёння на культуру грошай зашмат няма.*

— Але што намалявана — тое ёсць!

*— Дзякую за размову і... можа не ўсё яшчэ страчана!*

# Пасхальнае пасланне

**Яго Праасвяшчэнства, Высокапраасвяшчэннага Савы, Архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага
Шаноўнаму Духавенству, Багалюбіваму Манаству і Усім Вернікам Беластоцка-Гданьскай Епархіі
Хрыстос Уваскрос!**

*Хрыстос Уваскрос з мёртвых, Першынец з ліку памерлых. Як у Адаме ўсе паміраюць, так у Хрысце ўсе ажываюць* (1 Кар., 15: 20, 22).

З такімі словамі звяртаецца ап. Павел да карынфянаў, выказваючы ў іх усю праўду, якую нясе свету цуд паўстання з мёртвых Хрыста. Ён — цуд — насычае сваім зместам свет ва ўсе перыяды яго быцця, уносячы ў яго ўпэўненасць, радасць і надзею.

Для праваслаўнага хрысціяніна няма большай радасці, чым дабравесце аб уваскрэсенні Збавіцеля, без якога немагчымы наша вера, наша дабравесце і наша святая Царква. „А калі Хрыстос не ўваскрос, то і пропаведзь наша дарэмная, дарэмна і вера наша" (1 Кар., 15: 14).

Хрыстос Уваскрос — Першынец з ліку памерлых, каб у з'яўленні Яго свету і мы адрадзіліся ў жыццё вечнае (1 Кар., 15: 20 і наст.). Паколькі „тленнаму трэба адзецца ў нятленнае, а смяротнаму — апранупца ў несмяротнасць" (1Кар., 15: 53).

Праўдай з'яўляецца і тое, што ад Бога аддаляе нас грэх. Але Бог перамог над грэхам у целе тым, што перадаў жыццё Духа (Рым., 8: 2) целу Хрыста, стаўшага цераз смерць і Уваскрэсенне Духам Жыватворным (1 Кар., 15: 45) і целу нашаму, паколькі цяпер мы „не паводле цела жывём, а паводле духа Хрыстовага" (Рым., 8: 9). Сёння здзейснілася вяртанне да Бога і наша з Ім прымірэнне.

Уваскрэслы Хрыстос сваёй перамогай смерці ўзбагаціў нас усімі духоўнымі дарамі (1 Кар., 1: 5), дарамі Уваскрэсення (Эф., 4: 7-12). Таму і жыццё праўдзівае, паколькі Ён, уваскросшы з мёртвых, палажыў пачатак уваскрэсенню ўсіх памерлых.

У гэтым заключаецца прычына нашай пасхальнай радасці і ўсёдаравання: „нябёсы тады належна няхай весяляцца, зямля няхай жа радуецца, няхай жа святкуе свет, бачны жа ўвесь і нябачны, бо Хрыстос паўстаў на радасць вечную" (канон пасхальны).

Гэтымі словамі мы ўмацоўваем сваю веру ў Таго, цераз Якога мы маем мір з Богам (Рым., 5: 1), веру ва Уваскрэслага Хрыста, Адзінароднага Сына Божага.

Па веры уваскрэслы Гасподзь даруе нам мір з бліжнімі, якімі для нас з'яўляецца ўсе людзі. Таму што Уваскрэслы Хрыстос прывёў нас у вялікую людскую сям'ю, у якой чыстая бескарысная любоў да ўсіх пастаўлена галоўнай запаведдзю (Мф., 5: 44; Лк., 6: 27; Ін., 13: 34) і галоўнай асновай нашых узаемаадносін.

Свята Пасхі Гасподняй — гэта перш за ўсё свята міру і пераможнай ды радуючайся хрысціянскай любві. Што ж іншае абазначае пасхальны пацалунак, калі не трыумф веры, любві і міру?

Нашыя пасхальныя ўзаемныя прывітанні і цалаванні прыбліжаюць нас адзін да аднаго. І вось гэтага міру і любві патрэба сённяшняму падзеленаму чалавецтву, нашым дамам і кожнаму з нас асабіста.

Ахоплены пасхальнай радасцю аб Уваскрэслым Хрысце, ад усёй душы вітаю Вас, Дарагія Пастыры, Манахі і Манахіні, і Усіх Вас Браты і Сёстры — дзеці, моладзь, старцы, адзінокія — веруючыя Беластоцка-Гданьскай Епархіі — з перамогай нашай веры — Пасхай Бога нашага.

Асаблівую пасхальную любоў з радасным прывітаннем накіроўваю нашым праваслаўным салдатам Польскай Арміі, выконваючым свой патрыятычны абавязак у адносінах да сваёй Айчыны.

Уваскрэслы Гасподзь няхай умацоўвае ў нас, дараваны нам цераз сваё Уваскрэсенне, мір з Богам і бліжнімі (1 Кар., 7: 15). „О Пасха вялікая і свяшчэнная, Хрысце! Ад мудрасці і слова Божага — Сіла! Давай нам сапраўды Цябе прычашчацца ў невячэрнім дні Царства Твайго" (канон Пасхі).

**Хрыстос Уваскрос! — Сапраўды Уваскрос!**

**✝ Сава**
**Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі**
Беласток–Гданьск
Св. Пасха, 1996 г.

# Вялікдзень



У нядзельны світанак царкоўныя званы абвяшчаюць свету цуд непараўнальны з ніякімі іншымі: „Хрыстос Уваскрос!" Навіна, што Хрыстос „сапраўды ўваскрос" напаўняе сэрцы вернікаў сілай і бадзёрасцю. Упэўненасць у гэтым факце з'яўляецца асноўным цэнтрам хрысціянства, залогам збаўлення і вечнага жыцця. Разам з прыродай, што пасля зімовага сну абуджаецца да новага жыцця — адраджаецца і чалавек, перажываючы сваю вясну. Шчаслівы, хто скарыстаўся дабрадзействам Вялікага Посту, хто ў думках спадарожнічаў Хрысту падчас Вялікага Тыдня ў ягоных пакутах, у крыжы і пахаванні... Той глыбей і паўней усправымае цяпер і Хрыстовае Уваскрэсенне.

Для ўсіх хрысціян, прынамсі чвэрці насельніцтва зямлі, Велікодны цуд з'яўляецца галоўнай падзеяй гісторыі. „Калі Хрыстос не ўваскрос, — гаварыў апостал, — дык і навука Ваша дарэмная, дарэмная і вера Ваша" (1 Кар., 15: 14). Але Хрыстос уваскрос — сцвярджае апостал „дзеля апраўдання нашага" (Рым., 4: 25). Гэта перш за ўсё абазначае, што Хрыстос быў Богам. Ён быў тым, кім сам сябе назваў. Ён быў Богам у целе. Уваскрэсенне значыць, што Бог прыняў крыжовую ахвяру выкуплення. Яно — залог будучага ўваскрэсення нашых целаў. Святое Пісанне вучыць, што хаця нашы целы пахаваюць — яны ўстануць у вялікім уваскрэсенні памерлых і смерць будзе паглынута перамогай. Хрыстовым уваскрэсеннем у смерці аднята джала і ў Хрыстовых руках апынуліся ключы смерці. Ён сказаў: „Я — першы і апошні і жывы... і быў мёртвы і вось жыву на вечныя вякі і маю ключы пекла і смерці" (Апак., 1: 17). Ён паабяцаў таксама: „Я жывы і вы будзеце жыць".

Чалавек, які здольны ўнікнуць у гэтую вялікую тайну, чэрпле з яе сілы для ўнутранага адраджэння. „Хай ніхто, — пісаў св. Іаан Златавусты, — не плача над сваім убоствам, бо аб'явілася супольнае царства; хай ніхто не смуткуе над грахамі бо выбачэнне ад грабніцы заззяла, хай ніхто не баіцца смерці, бо вызваліла нас Хрыстова смерць". Апостал Павел заклікаў: „Дык калі вы ўваскрэслі з Хрыстом — шукайце ж узгорняга, дзе Хрыстос сядзіць праваруч Бога... Мярцвіце члены вашы, што на зямлі: блуд, нячыстасць, юр, дрэннае пажаданне і хцівасць, якая ёсць балвахвальства" (Кал., 3: 1-5). Мы прызваны зрабіць больш высакародным наша асабістае, сямейнае і грамадскае жыццё. Хаця Хрыстос з'яўляецца „дарогай, праўдай і жыццём", нам здараецца хадзіць сваімі шляхамі, шукаць іншых праўдаў і жыць паводле сваіх запаветаў...

Наша першая смерць і ўваскрэсенне з Хрыстом адбыліся ў святым хрышчэнні. На жаль, хрышчэнская вада вельмі хутка высыхае. Мы зноў вяртаемся да старых прывычак, апранаемся ў старую вопратку, азмрочваем сябе новымі заганамі. Дзеля гэтага ўстаноўлена таінства споведзі. У ім чалавек нанава ўваскрасае, адыходзіць аблегчаны ад цяжару, з новай бадзёрасцю і радасцю.

На працягу жыцця шмат разоў здараецца падаць і ўставаць; чалавек не родзіцца спелым. У ім заўсёды застаюцца нейкія неасвечаныя месцы. Галоўнае, каб усвядоміць сабе сваё прызванне, абавязак пераадолення сваіх слабасцей згодна з апостальскім заклікам: „лічыце сябе памерлым дзеля граху — жывым жа дзеля Бога ў Хрысце Ісусе, Госпадзе нашым".

Хай Бог дапаможа духоўна ўваскрэснуць нашаму народу і ўваскрэсіць пачуццё сваёй годнасці! Хай у рэшце рэшт свае справы ў свае рукі возьме наша гаротная Бацькаўшчына! Хай нічым не азмрочаная велікодная радасць спадарожнічае Вам і Вашым сем'ям у гэтыя святочныя дні духоўнай вясны... „Хрыстос Уваскрос — Сапраўды Уваскрос".

**а. Канстанцін Бандарук**

# У пасхальную ноч

Гэта была вельмі маладая пара, якая апошняй звянчалася перад закрыццём царквы бальшавікамі. Не адгрымелі яшчэ ваенныя дзеянні грамадзянскай вайны, як бальшавікі пачалі ўводзіць свае парадкі. Усіх маладых людзей сталі застаўляць да работы. Маладую пару накіравалі на працу ў адну ўстанову. Быў гэта жудасны час, калі людзі пухлі ад голаду і паміралі на вуліцах. На месяц работы выдавалі штодзённа па фунце (400 грамаў) мукі нейкага шэрага колеру, трохі алею і цукру, а часам качан кукурузы. І хаця былі гэта галодныя пайкі, але дома быў яшчэ запас бульбы, буракоў, цыбулі і капусты, прыхаваны ад бальшавіцкіх рэквізыцый.

Начакана ў сярэдзіне зімы паступіла гуманітарная дапамога з Амерыкі. Была там снежна-белая мука „ара". Дапамога перш за ўсё была накіравана шахцёрам, аднак кіраўніцтва ўстановы, у якой працавала маладая пара, прыдбала трохі „ары" сваім супрацоўнікам. Такім чынам маладажоны замест шэрай мукі сталі прыносіць белую.

Канчаўся Вялікі пост, набліжалася Пасха Хрыстова і маладая гаспадыня вырашыла спячы велікодны куліч. Для маладой пары гэта была іх першая супольная Пасха і яны моцна жадалі перажыць духоўную радасць і прыгажосць Светлай Ночы. І яна надышла — ціхая, вясновая, Вялікая Ноч Уваскрэсення Хрыстовага. Людзі пад вечар, па прызыву званоў, ішлі ў царкву. Некалі багатая вёска цяпер была разбурана вайной і безупыннымі рэквізыцыямі. У царкву ішлі бедна апранутыя людзі, знямоўжаныя холадам і голадам. Нягледзячы на гэта, кожны нёс чысты вузельчык з прадуктамі для разгавення, якія мелі быць асвячаны ў гэтую ноч.

І наша маладая пара асцярожна несла свой клуначак са спечаным з белай мукі кулічом і двума пафарбаванымі на чырвона яйкамі. Гэта ж была іх першая супольная Пасха!

Пасля службы вакол царквы сфармаваўся круг вернікаў. Людзі развязвалі свае вузельчыкі і запальвалі свечкі. Было цёпла і ціха, а на ўсходзе стала развідняцца. Побач маладой пары стаяў худы, бедна адзеты дзядуля з сівой барадою, які нясмела паставіў на траве свой клуначак. Маладыя аж жахнуліся, калі пабачылі шэрую аладку, зглепленую з вотруб'я і мякіны. Ні яйка, ні свечкі... Але ж гэта ўсё ж такі пасхальны куліч!

З царквы выйшаў хрэсны ход з крыжам і харугвамі. Бацюшка, пад спевы хору і воклічы „Хрыстос уваскрос! — Сапраўды ўваскрос!", стаў асвячаць расстаўленыя кулічы. Перахрысціўся дзядуля і з плачам нахіліўся, каб завярнуць асвячоную аладку. У гэты момант маладыя інстынктыўна звярнуліся да яго і выгукнулі: „Хрыстос уваскрос, дзядуля!" — „Сапраўды ўваскрос, дзеткі!" — прашаптаў здзіўлены старэча. І нейкая нязведаная ўзрушанасць ахапіла іх маладыя душы. Па чарзе пацалавалі дзядулю ў яго сівую бараду, а маладая жанчына нахілілася над сваім вузельчыкам, разламала свой беленькі куліч і палову пірага ды пафарбаванае яйка паклала побач дзедавай аладкі.

Не звярталі яны ўвагі на здзіўленне свайго суседа, ні на яго слёзы, ні словы гарачай падзякі. Абое пабеглі дадому, шчаслівыя ад нечаканай, таемнай радасці, з нейкім светлым адчуваннем у сваіх маладых душах, што Хрыстос сапраўды ўваскрос.

*Паводле апавядання С. Падымава, „Церковный Вестник" № 84-85, Нью-Йорк 1995, апрацаваў С. Н.*

# Якія пеўні ў гісторыі б'юцца

— З суседніх вёсак ніхто не выбраўся ў бежанства, — расказвае сёння васьмідзесяцісямігадовы **Іван Кастанчук** з Баравых, што ў Нараўчанскай гміне. — Мой тата быў гаевым, і пэўна таму мы і сабраліся ў свет. Былі зразу ў Маскве, каля Мыцішчаў, у вёсачцы Косціна, там бацька хадзіў на парубкі ў царскі лес. З намі была цёця Зося. Забраў бацька маму, мяне, Веру, Юстына. Дома асталіся дзед з бабай, уся вёска — Максім з двума сынамі, Раман у Масеве за войта... Што мы ўзялі з сабою? А што ж набярэш! Мы не былі бедныя. Мой дзед любіў працу, меў трохі грошай за тое, што каменне біў, вазіў на чыгунку, хутар купіў у 1912 годзе ў Тарнопалі за грэчку, за мёд. А тут кідаць усё кажуць, уцякаць ад ворага. Колькі возьмеш на фуру? Дзед астаўся, пільнаваць свайго. А колькі я магу памятаць з таго моманту, як збіраліся ў Расею? Мне ж было толькі шэсць гадоў. Памятаю, яшчэ перад станцыяй шапку згубіў, так і без шапкі ў далёкі свет паехаў. Цёця Зося асталася ў Маскве, медсястрой працавала... Бацькаў швагер, Антон, што памяняў прозвішча на Якубоўскі, што афіцэрам у Харкаве быў, запрасіў нас з Масквы ў госці. Тады на Украіне яшчэ ўсяго ўдосталь было. Ён і параіў нам ехаць у Сібір, лепшай долі шукаць. Ці таму паехалі мы ў паняверку, што бацька спалохаўся немцаў і пагрозы расправы над нашым народам? На свой кошт не паехалі, давалі бежанцам нейкую ўспамогу.

У Сібіры наша вёска была Багаслоўка, недалёка Омска, над рэчкай Омкай. Спачатку пасяліліся мы ў Курачкіных, пасля ў Сахна, потым у Аляксея Ражкова, нарэшце жылі ў Галаўчэнкі, ён нас і адпраўляў дадому. Вёска ў пяць кіламетраў, з царквою пасярэдзіне, на ўзгорку, унізе над рэчкай агароды, чароды гусей і качак (гаспадыні гадавалі па 80-100 гусей), кожны гаспадар меў лазню... У тых *банях* палілі дрэвам, але якое ж *дзерава* — бярозкі як пад столь, хварасцяк. Памагаў я гаспадыні секчы дровы, то частавала мяне малаком, булачку час ад часу давала. У печах і плітах палілі сухім гноем — кізяком, а абагравалі... саломай. Летам жылі мы ў свірне Ражкова, а калі ссыпалі туды збожжа, перайшлі да Галаўчэнкі, у дом-майстэрню, дзе раней рабілі валёнкі. Мелі мы там такую стаўбуністую печ з матора, дзе вось саломай палілі, грэла вельмі добра, награвалася, а саломы было шмат, бо і збожжа шмат сеялася, і нястрашныя былі маразы. Хата была ў драўлянай шалёўцы, літая з гліны і саломы, крытая дзёрнам.

У Багаслоўцы людзі не згаджаліся, каб іх нейкі Ленін вучыў, як жыць ды гаспадарыць. Добра жылі, а тут нейкія чужынцы хочуць наводзіць свае парадкі! Людзі мелі па сто гектараў, працавалі сем'ямі (у Ражковых у трох хатах жыло 40 чалавек), мелі малатарні ў васьмёра коней, касілкі, грабілкі, сціпты збожжа па 20, 40 метраў, свірны па 20 метраў, з драўлянымі памостамі, крытыя дзёрнам, сухія. Каля рэчкі добрыя пашы, лугі, вадзяны млын на Ірцышы... Той млын у мірны час намолваў штодзень па два саставы мукі, працаваў кругласутачна. Ну і што, пастралялі млынароў, бо не хацелі малоць, дарэчы, і не было што... Людзі бульбу садзілі, капусту, буракі, проса сеялі, пшаніцу, ячмень. Зямлі нам дазволілі ўзяць колькі мы схацелі. Не шкадавалі нам нічога. Трэба каня — бяры на выгане. Людзі былі добрыя, дзяліліся з намі. Вядома, пакуль голад не настаў. Тады і дзяліцца не было чым. Нас, бежанцаў, не было шмат у Багаслоўцы — толькі мы і Крынскія са Скупава. Крынская і хрысціла нашых Якіма і Пецю, што нарадзіліся ў Сібіры... Ну, Крынскі гаспадарыць не хацеў, лавіў вершамі рыбку. Новая *ўласць* яму спадабалася, начапіў значок. У вёсцы гаспадары ўзлаваліся: вось *прышэлец*, а хоча ўладу новую прыносіць! Сарвалі значок, далі Крынскаму ў каплех.

Прыходзілі нейкія людзі. Невядома, хто. Раз загналі шмат людзей у склеп, хацелі ўсіх пастраляць. Чуем, на гары нехта кажа: „Трэба хоць праверыць, разабрацца, хто там ёсць, ці то нашы, ці не нашы, белыя, ці чырвоныя". Мы сядзім у пограбе, і таксама не ведаем, хто там наверсе — ці нейкія „белыя", ці „чырвоныя", ці яшчэ якія іншыя. Адзін старэйшы з іх разабраўся. Пастралялі „белых", пакінулі на могілках. Пакуль зямля не растала, так і ляжалі тыя людзі ў снезе, не чырвоныя і не белыя перад Богам. Значыць, тады стралялі чырвоныя. Стралялі, бо той мае ўладу і закон у руках, у каго ў руках ёсць ружжо. Хто нешта ўкраў, хто бярозку „государственную" ссек, хто камусьці злое ўчыніў, — вясковая міліцыя заганяла ў падвал і разбіралася: каму даць, каму не даць, каго выпусціць, а каму кулькай у лоб. Каго знішчыць, а каго пакінуць, паводле праграмы. І цяпер жа ж такія праграмы ёсць, не?

Трэба было паехаць у Краснаярск па бульбу. Селі мы ў сані з Ражковым. Хіба з тысяча кіламетраў. Тры дні ў адзін бок. Пад Краснаярскам зямля лепшая, нават дрэвы больш салідныя, не тое, што наш хварасцяк. У газетах прачыталі, што Ленін прыедзе на парад. Узялі мы *гасцінец* — два індыкі апраўленыя. Заехалі ў праўленне. Індыкі пакінулі ў сенях, паехалі бульбу па людзях шукаць. Пачаўся голад, які больш церабіў людзей, як нядаўна закончаная вайна. І тых нашых індыкоў хтосьці разам з рэчмяшком забраў з сяней. Ого, кажуць урадніці, не толькі па вёсках *воры*, але нават і ў *ужэньдзе*! Вельмі ж нам хацелася Леніна пабачыць. Але Леніна пабачыць — справа ненайважнейшая, калі есці хочацца... Мне цікава, слухаю, што гаворыць Ленін з грузінам. Грузін кажа: „Вот иносказание. У меня тоже было два петуха, бились до крови, гребешки друг другу изорвали". А Ленін кажа: „Ведь не надо их из перья щипать, сами себя ощиплют. Хватит напустить их друг на друга". Мне было толькі трынаццаць гадоў, але я зразумеў, што яны гавораць пра народ. Калі вярнуліся мы з бульбай дамоў, я расказаў пра размову на ўроку настаўніцы, Зінаідзе Ражковай. Яна мне і кажа: „Маеш рацыю, Іван, не пра бойку пеўняў і абдзіранне іх з пер'я яны гаварылі, не пра тое, як абскубці пеўняў, а як абдзерці *крэсцян*, а тое, каб напусціць пеўняў адзін на аднаго — гэта пра народы, якія самі сябе маюць знішчыць, а для тых, што іх на сябе напусцілі, мае гэта быць добрае відовішча". Ражкова была дачкою нашага гаспадара, вучыла ў сямікласнай школе...



*Іван Канстанчук з дзесятым праўнукам.*

Паехалі садзіць мы тую бульбу, а за намі разорамі ідуць людзі, выграбаюць бульбіны з зямлі і сырыя глытаюць. Кінулі мы садзіць, забралі рэшту бульбы дахаты. Другі раз сабраліся ехаць, узялі і проса, а наша поле перагарбана рукамі, ні аднае бульбіны няма, а ля зямлянкі ляжаць мёртвыя людзі, ужо гніюць. Хто іх забіў? За што? Узяў бацька воз, павазіў трупы ў воўчую яму, загроб іх у зямлю. Пасадзілі мы на полі рэшту бульбы, пасеялі проса. Паехалі мы проса збіраць, а яно каласок за каласком — пустыя, перацертыя рукамі. Пасеялі мы ў тым месцы лён, сабралі, выціснулі алей, і мелі да бульбы, бо бульбы насыпалі добрую яму, харошай, гладкай, вялікай. І пшаніцы тады пасеялі дваццаць кілаграмаў, то тата два разы ездзіў возам у пару коней па тую пшаніцу. Ехалі на радзіму — было з чаго пару сеннікоў сухароў напячы, і хапіла ежы да Баранавіч, у дваццаць трэцім. Тады якраз упалі дажджы, то і ў Сібіры пачало ўсё лепш расці, і саранча не так налятала, бо часам, калі цягнік ехаў, трэба было пасыпаць рэйкі пяском, — столькі тае саранчы было на зямлі. Людзі гінулі за ўсё — і з голаду, і за тое, што штосьці мелі. Мы ў дваццатым годзе назбіралі чатыры сеннікі ячменных каласкоў, усю зіму таўклі кашу, і так пракарміліся. Вось што вайна нарабіла! Ой, *дзялоў* было, *дзялоў*! Вось табе і пеўні!

У нас то хоць бручкі насееш, рэпы, на радзіме лягчэй бяду перанесці. Вярталіся мы месяц дадому. Чакалі нас дзед з бабай, аралі, сеялі, Тафіля з Украіны вярнулася раней, з Ракітна. Вярнуліся мы ўсе, толькі Пеця, прыехаўшы, памёр. Не змог маленькага ні холад, ні голад, а на мяжы ўжо *схваціла* яго „ангельская хвароба", спух яму жывоцік, і памёр хлопчык дома, на радзіме, якую першы і апошні раз убачыў.

З намі вяртаўся паляк. Як толькі да Баранавіч даехалі, расчыніў ён дзверы цялячага вагона, крыкнуў у радасці: „Dzień dobry!". А вайсковец, які ўбачыў нашы заморaныя твары, зароў: „Zamknij drzwi, do trzystu diabłów!" Вось мы і былі ўжо на радзіме, у сябе дома.

Запісала **Міра ЛУКША**

Фота аўтара

# Беларусы і японцы

**Са шматгадовым дзеячам БГКТ з Гайнаўкі Мікалаем СУЛІМАМ гутарыць Аляксандр Вярбіцкі.**

*— Як праходзілі вашы школьныя гады?*

— Пры санацыі я хадзіў у вясковую школу ў Мора. Была гэта такая школа, у якой за сем гадоў канчалася чатыры класы: год у першым, год у другім, два ў трэцім і тры ў чацвёртым. У Орлі была школа сямікласная, але туды я не хадзіў. Вучылі толькі па-польску. У 1939 годзе, як выбухла вайна, мяне забралі ў польскую армію. Была мабілізацыя коней, вазоў, што забралі ў гаспадароў, у Малінніках. Нас туды гранатовая паліцыя ўзяла. Я меў два вазы счэпленыя і двое коней. Загналі мы гэты абоз пад Брэст. Там былі тысячы і тысячы падвод. Па некалькіх днях нямецкія самалёты збамбілі гэты абоз, змяшалі ўсё з зямлёй і мы вярнуліся дадому, пяшком. Два тыдні ішлі. Як вярнуліся, то ўжо да нас увайшла *Красная* армія. Як насталі саветы, то я хадзіў у Орлю ў школу. Вучылі там беларускай, рускай і нямецкай мовам. Хадзіў я ў тую школу толькі год, бо прыйшоў час ісці ў армію. У 1941 годзе восенню меў я ісці ў Карэлію ў танкісты. Выбухла аднак вайна і немцы, як толькі ўвайшлі, адразу нас, першым наборам, вывезлі ў Германію. Сем тыдняў прабыў ва Усходняй Прусіі, капаючы буракі і бульбу, а потым адправілі аж пад французскую граніцу; там быў у гаспадара, зімою працаваў на фабрыцы. Пры канцы вайны ўзялі пад Брэслаў (Вроцлаў) капаць акопы. Вызвалілі нас саветы і адразу мяне ў армію ўзялі. Бралі Брэслаў і Берлін, ваявалі ў Чэхаславакіі.

*— Чаму адразу ў армію?*

— Па трох прычынах: нацыянальнасць беларуская, у 1939—41 гадах быў грамадзянінам СССР, ну і да таго быў прызыўніком, меў прапісную кніжку.

*— З сабою, у Германіі?*

— Так. Як нас вызвалілі, мелі мы тры магчымасці: або ў Сібір лес рубаць, або ў шахты, або ў армію. Таксама і жанчын не адпускалі дадому: бралі ў пякарні, сціральні, санбаты ці кароў гнаць і даіць.

*— Куды тых кароў гнаць?*

— У Расію — немец жа ўсё агалаціў.

*— І што, зімою гналі?*

— Не, чакалі вясны і тады.

*— А як з вамі было далей?*

— Мяне ўзялі ў армію. Пасля перамогі над Германіяй праз Аўстрыю, Венгрыю і Румынію павезлі нас на Далёкі Усход, ваяваць з Японіяй.

*— То вас так адразу ў армію ўзялі, без абучэння?*

— Абучалі нас у сорак першым саветы, цэлае лета. У суботу пасля працы і па нядзелях. У Орлі каля могілак стаяла танкавая часць. Вайна з Японіяй трывала ад 8 жніўня да 2 верасня. Там служыў у артылерыі. Страшная вайна.

*— А як вы туды ехалі?*

— Поездам, эшалонам. Ехала нас дзве з паловай тысячы салдат са зброяй.

*— Асабістай?*

— Не, пастраляліся б усе. Ехалі 36 сутак не вылазячы з поезда.

*— Але кухня там была?*

— Раз у суткі затрымоўся наш эшалон на *продпункце* і давалі тады гарачы паёк і да таго давалі яшчэ сухі паёк.

*— А піць давалі?*

— Там усё было да *папіця*, а да яды... Ну, давалі сухары, цукар, каўбасу. А як вярталіся назад, то ўжо ехаў менш; з Уладзівастока да Новасібірска *транспортам*, а ў Новасібірску селі ўжо на пасажырскі. Мелі мы талоны і на кожнай станцыі, як поезд затрымоўваўся, мы маглі за іх што хоч браць. Талоны на кожны дзень; такое жыццё было.

*— Вы ваявалі ў Маньчжурыі; як тая Маньчжурыя выглядала?*

— Лепш каб яе не бачыць. Вельмі цяжка было.

*— Як вы наступалі?*

— Франтальна, ехалі і ішлі, па-рознаму было.

*— Японцы ўцякалі, а вы іх гналі?*

— Японцы ніколі не ўцякалі. Японец б'ецца да апошняга патрона, калі выйдуць патроны, хапае за фінку за халяваю, а калі не дасць рады, то яшчэ стараецца цябе зубамі за горла ўхапіць, руку ці палец перагрызці, як сабака. Тое, што скінулі на іх атамныя бомбы, пахіснула іхні дух і толькі тады пайшоў лёгкі фронт. Вайна скончылася і я прабыў на Далёкім Усходзе да лістапада сорак шостага, да дэмабілізацыі.

*(заканчэнне будзе)*

# Позірк у мінулае

**14 красавіка**

1789 г. — Джордж Вашынгтон выбраны першым прэзідэнтам ЗША. Сталіцай краіны (да 1800 г.) была Філадэльфія.

1924 г. — першы гарызантальны пралёт верталёта на дыстанцыі 350 метраў у Францыі.

1929 г. — у Манака адбыліся першыя аўтагонкі Гран-Пры.

1956 г. — у ЗША выкананы першы відэазапіс.

1970 г. — аварыя касмічнага карабля *Apollo-13* 300 тыс. кіламетраў ад Зямлі. Экіпаж з трох касманаўтаў вярнуўся на Зямлю, не прызямляючыся на Месяцы.

**15 красавіка**

1452 г. — нар. Леанарда да Вінчы, італьянскі геній.

1912 г. — нар. Кім Ір-Сен, карэйскі палітык.

1912 г. — брытанскі параход „Тытанік" патануў у час свайго першага рэйса ля берагоў Нью-Фаўнленда пасля сутыкнення з айсбергам; загінула 1513 чалавек.

1930 г. — нар. Вігдзіс Фінбагадатыр, ісландская палітык, першая ў свеце жанчына на пасадзе прэзідэнта краіны.

1985 г. — у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы адменена забарону міжрасавых шлюбаў і любоўных кантактаў.

1986 г. — у адказ на бомбавы атэнтат на дыскатэку ў Берліне 33 амерыканскія самалёты збамбілі лівійскія гарады Трыпалі і Бенгазі; загінула каля сотні чалавек.

1990 г. — у велікоднай літургіі пад адкрытым небам у Сафіі прысутнічала каля 150 тыс. вернікаў.

1990 г. — памерла Грэта Гарба, шведская кінаактрыса.

**16 красавіка**

1889 г. — нар. Чарлі Чаплін, англійскі акцёр.

1909 г. — кананізацыя Іаанны д'Арк, французскай нацыянальнай гераіні.

1925 г. — у Сафіі ў спробе атэнтата на балгарскага караля загінула каля 200 чалавек.

1981 г. — на Сіцыліі пушчана ў ход першая сонечная электрастанцыя.

1984 г. — у Сан-Паулу дэманстравала блізу 1,3 млн. чалавек супраць ваеннага рэжыма ў Бразіліі.

**17 красавіка**

1961 г. — высадка кубінскіх выхадцаў у Свіной бухце, якія пры падтрымцы ЦРУ мелі звяргнуць праўленне Фідэля Кастра.

1969 г. — адстаўка Аляксандра Дубчэка з пасады генсека Кампартыі Чэхаславакіі па савецкаму настаўванню.

1973 г. — адстаўка Рычарда Ніксана з пасады прэзідэнта ЗША ў сувязі з афёрай Уотэргейт.

**18 красавіка**

1946 г. — апошняе пасяджэнне Лігі Нацый у Жэневе; свае паўнамоцтвы перадала яна ААН.

1955 г. — памёр Альберт Эйнштэйн, нямецка-амерыканскі фізік.

**19 красавіка**

1943 г. — выбух паўстання ў Варшаўскім гета.

1950 г. — у Нью-Йорку выканана першы масаж сэрца.

**20 красавіка**

1821 г. — памёр Франц Ахард, нямецкі хімік, распрацаваў прадукцыю цукру з буракоў.

1889 г. — нар. Адольф Гітлер, нямецкі дыктатар.

1940 г. — у Філадэльфіі спрацаваў першы электронны мікраскоп.

**(Ш)**

# Парнасік

## Вялікдзень

Прыйдзе Пальмовая нядзеля,
Закончыцца Вялікі пост,
Будзе пасхальнае вяселле
Усёй дзятве на радасць зноў.

Ужо Вялікая субота.
Маці смакоцце ўсё пячэ.
Паспрабаваць бы вось ахвота...
Ды маці не дае яшчэ.

Да заўтра пачакаць нам трэба.
А я салодкага хачу,
Бо сёння можна толькі хлеба
Ды міску поснага баршчу.

Гатовяць крашанкі-пісанкі,
Рыхтуюць „свячанку" ў царкву:
Каўбаску, масла, соль ды яйкі.
„Пасачку" з татам панясу.

А па ўсяночнай — вось сняданне!
Яйкам пасвячаным пачнём.
Потым такое баляванне
Запомніцца надоўга ўсім.

На другі дзень за валачобным
Да хроснай маці, да сяброў.
Кішэні добрыя патрэбны...
Ах, каб гэта вярнулася зноў.

А потым то мы ў яйкі гралі
На выбіткі — у каго мацней,
Ды яйкі па траве качалі:
Хто пападзе? Ды хто трапней?

Не толькі дзеці так гулялі.
Хто выйграў, яйкі забіраў.
Аднолькава ўсе хваляваліся.
Аднак абычай ужо прапаў.

У юнацтве я так забаўляўся
Ды рознага ўдоваль жа было,
А калі выйграў, радаваўся!
Дык гэта ўсё ўжо так даўно...

**„Улас"**

## Пасха — Вялікдзень

Пасха — Вялікдзень,
Гэта вялікі і ясны Дзень —
Свята над святам:
Хрыстос быў узняты.
Найперш быў да крыжа прыбіты,
Аплёўваны і біты.
Мы, быццам невінаватыя,
Толькі нікчэмнікі праклятыя,
Бо гэта яны яго распялі
І здзекі, шум паднялі.
Мучылі Хрыста, як маглі,
А мы толькі яго з крыжа знялі.
Нам здаецца, што наша віна малая,
Так, як і наша вера слабая,
І мы пастароннія.
А цяпер з Хрыстом амаль родныя.
Гэта ілюзія і самаабман,
Не прызнавацца да Хрыстовых ран.
А мы Хрыста прыбівалі
І цёмнага князя праслаўлялі.
Гэта цягнецца і па сёння —
Зло і цемра праводзіцца плённа.
Але Хрыстос нас палюбіў
І д'ябла пабіў
Калі мы яшчэ былі грэшныя
І духоўна пакалечаныя.
І Хрыстос рашыў нас апраўдаць
І вечнасць нам даць,
Каб мы былі каля яго парога.
У Хрысце-збаўцы наша дарога.
Ён на крыж пайшоў
І на Галгофе нас знайшоў.
Яго ахвяра не мае сабе роўных,
Што не выказаць розумам ні слоўна.
Ісус узяў над смерцю перамогу,
Хаця на галаву Яму адзелі цярнову
карону.
Гэта быў адкуп за ўсё чалавецтва
Каб вырваць нас з грэху і калецтва.
Наш вялікі Хрыстос!
Ён Бог і ўваскрос.
Не было і няма сілы Яго перамагчы
І толькі ў Ім можам радасць знайсці.
Успамінаем свята:
Пасху — Вялікдзень;
Яна разганяе і смутак і цень.
І каб нам урэшце людзьмі стацца —
У Хрысце жыць — залог апраўдацца.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# Вер — не вер

Астроне! Хаця вясна ўжо прыйшла (па календару, вядома), снег бязлітасна сыпаў усю ноч. Цяжка было спаць, цяжка дыхаць. Сніліся страшныя сны.

Здаецца, еду цягніком. Я ў нейкім вагоне, памаляваным усярэдзіне белай фарбай. Еду, нікога побач са мной не бачу. Ведаю, што ўжо мой прыпынак, і трэба выходзіць. Я ўстаю з месца і накіроўваюся да выхаду. Гляджу, а дзвярэй няма. На тым месцы, дзе яны павінны быць, металічная глухая сцяна (белая), на якой толькі зарысоўваюцца дзверы. Хачу выйсці і не магу. Спыняюся перад дзвярыма ў нерашучасці. Прачынаюся.

А майму мужу ў тую ж ноч таксама прысніўся страшны сон. Быццам ён вісіць на нейкай высачэзнай скале (як узлез туды, ён не памятае): унізе — прыгожае, блакітнае мора, а ён зачапіўся рукамі за камені і трымаецца з усіх сіл, каб не зваліцца. Глядзіць уніз і робіцца яму вельмі страшна, бо надта баіцца вышыні. Ну, і неяк утрымаўся, не зваліўся, але страху дык наеўся.

Што могуць абазначаць гэтыя сны?

**АНЭТА**

Анэта! Твой сон гаворыць аб нейкай цяжкой бязвыхаднай сітуацыі. І ты не магла выйсці са свайго смутку (ехаць у вагоне), бо дзвярэй, пры дапамозе якіх ты магла б выйсці з вагона, не было. І твой муж таксама, калі б адарваўся ад скалы, дык паляцеў бы ў мора. Аднак жа ён усё ж утрымаўся, ды і мора было блакітнае. Можа, усё абыдзецца. У дні веснавога перасілення заўсёды сняцца кепскія сны.

**АСТРОН**

# Пасха

Вялікдзень, Пасха — галоўнае хрысціянскае свята ўваскрэсення распятага Хрыста. У дахрысціянскі час было гэта веснавае свята ў гонар Сонца, абуджэння прыроды. Адзначалі яго як самае радаснае ў жыцці земляроба. Гатавалі багата смачных страў — заканчваўся доўгі пост. Гулялі фарбаванымі яйкамі „ў біткі". Даўней у беларускіх вёсках у велікодныя дні хадзілі валачобнікі, спявалі велікодныя песні.

**(яц)**

— Ой, вясна ды й весенка, ды й весенка,
Што ж ты нам прынеселка, прынеселка?
— Маладым малодкам — па бердзечку, па бердзечку,
А дзевачкам — па пранічку, па пранічку,
А маладым дзеткам — па яечку, па яечку,
А старым дзядкам — па кіёчку, па кіёчку,
Маладым мужчынкам — па плужочку, па плужочку,
А хлопчыкам — па пужачцы, па пужачцы,
Маладым малодкам — красёнцы ткаць,
А дзевачкам — дый палотны бяліць,
Малым дзеткам у яечкі гуляць,
Старым дзядкам — на мураўцы сядзець,
Маладым мужчынкам — поле араць,
А хлопчыкам — на пастку гнаць.

## Каму жарты, каму гора...

Марыя і Карп былі шчаслівым сужонствам. Не было паміж імі дурное зайздрасці, як бывае ў некаторых сем'ях. Карп працаваў вадзіцелем у прадпрыемстве, і не раз трэба было яму ехаць па тавар нават у другі канец Польшчы. Здаралася, што Карпа не было дома нават і чатыры дні.

Аднойчы Марыя пайшла на мужава прадпрыемства даведацца, ці ўжо вярнуўся і запытацца, што падрыхтаваць на вячэру. Карп ужо прыехаў. Марыя расказала, як у хаце справы маюцца. Супрацоўнікі пачалі жартаваць, што таму Карпа ў горадзе не было, бо, відна, недзе бабу прыгалубіў.

— Вось бачыш, які ты! — заламала рукі Марыя. — Я спаць не магу, усё думаю, дзе мой каханы мужанёк, а ён напэўна ў Ванды быў!

Ванда была жонкай Міхала, Карпавага супрацоўніка, усяго год пасля шлюбу. Ванда праз чатыры месяцы мела нарадзіць дзіця.

— Што вы, пані Марыя! — усклікнуў Міхал. — Яна цяжарная, і мая мама праз сцяну ад нас жыве. Не можа быць, каб у Ванды быў каханак.

— Ой, што там гаварыць! — засмяялася Марыя. — А як бабу ўпільнуеш, калі хоча пакахацца! Калі яна хоча пазнаць нешта новае, свежае, то ёй нават дзеці не парашкодзяць.

Міхал спахмурнеў. Марыя і Карп абняўшыся пайшлі дадому. Вадзіцелі далей жартавалі з сямейнага жыцця „рагатых" мужчын, што не ведаюць, што тварыцца ў іхніх хатах, але Міхалу было зусім не да смеху.

Вечар у сям'і Марыі і Карпа прайшоў як заўсёды, на жартах і пяшчотах, але ў Ванды і Міхала ўсчаўся скандал. Без дай прычыны муж чапляўся не разумеючай, у чым справа, жонкі, а нават ударыў. Калі адказала тым жа, схапіў яе за валасы, выбіў зуб. Міхал быў упэўнены, што Ванда яму здрадзіла, калі ўсё ўсім ясна на працы, і ўжо ўголас з яго жартуюць.

На другі дзень усе ў прадпрыемстве ведалі пра Міхалавы паводзіны. І пра тое, што забралі яго ў міліцыю, а Ванда рашыла з ім развесціся.

— Вось як бывае, — расказваюць шафёры, — аднаму жарты, а каму бяда можа быць з гэтага...

**АЎРОРА**




**„Niwa"**

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міpановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Прыпеўкі

* * *

Ах вясна мая, вясна,
Не даеш спакою:
За дзве пенсіі купіў
Я на дачу гною.

* * *

Мітынгуюць у Залессі
Ганны, Пеці і Алесі:
— Зробім мы сваё Залессе
Незалежным ад Палесся.

* * *

У садочку на галіне
Груша спелая вісіць,
Сёння з нашае зарплаты
Нат галёшаў не купіць.

* * *

Ой, дзяўчаты, я нядаўна
З хлопцам падружылася,
„Снікерс" даў на развітанне,
Каб я атруцілася.

* * *

Мілы дома не начуе —
Прыбяжыць пад раніцу,
Лукашэнку пазваню я —
Няхай разбіраецца.

* * *

Працадні, працадні,
Ах, вы працадніцы.
Хутка буду без штаноў,
Жонка без спадніцы.

* * *

Мне урад падстроіў штуку,
Я такога не чакаў.
Мой сусед за сваю суку
Трыста доляраў узяў.

**Сяргей Чыгрын**

*— Пазнаеш месца? Ты зімой тут з горкі з'язджала.* Мал. М. ГІРГЕЛЯ

*У Нараўцы то нават і ўзімку пагрэцца не дазваляюць.* Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

## Схамянуліся

**Вальтэр** — вялікі насмешнік, які казаў, што ён з Богам раскланьваецца, але не вітаецца. Па словах яго сядзелкі, яна б „за ўсе грошы Еўропы не жадала б такога скону: Вальтэр усю ноч крычаў, просячы аб памілаванні".

**Напалеон** — імператар Францыі. Ягоны ўрач успамінаў: „Памёр у адзіноце, усімі пакінуты. Перадсмяротныя пакуты былі жахлівыя".

**Ленін**, паміраючы, прасіў у стала і крэслаў прабачэння за свае грахі.

**Зіноўеў** — спадзвіжнік Леніна, перад расстрэлам: „Слухай, Ізраіль, Гасподзь наш Бог ёсць адзіны Бог".

**Ягода** — кіраўнік савецкай тайнай паліцыі: „Павінен быць Бог. Ён карае мяне за мае грахі".

**Яраслаўскі** — прэзідэнт атэістычнага інтэрнацыянальнага руху: „Прашу, спаліце ўсе мае кнігі".

Цікава, а што будуць казаць сённяшнія знакамітасці, багі і бажкі гэтага свету?

**І. Шпадарук** *(„Вожык")*

## Цвік

*(Байка ў прозе)*

„Я не такі, як іншыя. Я — востры! Я — жалезны! — сказаў сам сабе цвік. — Усім я патрэбны. Кожная вяроўка на шыю вешаецца. А карціны! А дываны!.. Ніхто без мяне абысціся не можа".

Аднойчы перад цвіком дошка апынулася, трэба было яе да плоту прыбіць.

„З ёй — нічога агульнага мець не буду, — цвёрда вырашыў цвік. — Нейкая сукаватая, плоская. Як і яе характар. Адразу бачна: гэблік па ёй не прайшоўся. Не ўжывешся з такою..."

Тут цвік на зямлю скаціўся. Схаваўся ля плота. Каб ад гэтай дошкі як далей.

„Пашукаюць, пабегаюць, — усміхаецца, — зразумеюць, што ўсё на цвіку трымаецца".

Месяц ляжыць, другі. Дождж палівае, снег засыпае. Пачала цвік іржа раз'ядаць. А ён ляжыць, не варухнецца, свой жалезны характар дэманструе. Праз нейкі час іржа зусім даканала.

**Барыс Кавалерчык**

## Смех у санаторыі або „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Два вудзільшчыкі сустракаліся кожнага дня над возерам. Аднойчы адзін з іх не прыйшоў. Так прайшло пяць дзён. На шосты дзень з'явіўся.

— Чаму цябе так доўга не было? — пытае калега.

— Ажаніўся.

— Віншую! Ці хаця прыгожая?

— Што ты!

— Брыдкая?

— Мала; яна агідная!

— Дык навошта з ёю ты жаніўся?!

— Каб ты ведаў, якія чарвячкі ў яе агародзе!

* * *

У краму ўбягае жанчына дый крычыць ад парога:

— Прашу пастку на мышэй, толькі хутка, бо хачу злавіць аўтобус!

— Такой вялікай пасткі ў нас няма.

* * *

Гутараць дзве сакратаркі:

— Чаму заміж нагавіц ты пачала насіць міні-спаднічку?

— Каб шэф, замест на маю працу, глядзеў на мае ногі.

* * *

Размаўляюць два мастакі:

— Пацярпеў я вялікую страту. Мой сын выкінуў на сметнік мае найлепшыя эскізы.

— А колькі яму гадоў?

— Чатыры.

— Бач ты! Такі малы, а ўжо разбіраецца ў мастацтве.

* * *

У вакзальным рэстаране афіцыянт патрасае за плячо спячага наведвальніка:

— Закрываем гастраном, шаноўны спадар.

— Добра, добра, толькі не стукайце дзвярыма.

* * *

З пятага этажа загарэўшагася будынка пажарнік выносіць на руках прыгожую дзяўчыну.

— Дзякую вам за ваш шляхетны ўчынак, — шчабеча дзяўчо.

— Які там шляхетны; байкавата мусіў натузацца, каб не дапусціць да вас каго з маіх калег.

* * *

У рэстаране:

— Афіцыянт! Што за звярыкі жывуць у маім салаце?

— А пра вітаміны то вы ніколі не чулі?

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Ці ты ведаеш, як можна пазбыцца жонкі?! Напэўна пра такі спосаб, пра які я хачу табе расказаць, ты яшчэ не чула...

Пражылі мы з мужам усяго пяць гадоў. Гэта было ўжо другое замужжа, але і ён перада мною меў жонку і двое дзяцей. Я яго сям'ю не разбівала (ні яго, ні маю). Калі мы пазнаёміліся, і ён, і я былі ўжо разведзеныя. Мы з сынам жылі ў маіх бацькоў. Мне і сыну ў іх было добра. Пасля той паняверкі, якую я перажыла пры першым мужу, я ізноў адчула цеплыню роднага дома і матчыную ласку. Тады мне здавалася, што мужчыны мне ўжо ніколі не будуць патрэбныя.

Жыццё аднак мае свае правы. Там, дзе я працавала, пазнаёмілася я з другім чалавекам. Спачатку ён быў толькі маім сябрам. Быў адзінокі, без сям'і, дык маглі мы ад часу да часу некуды схадзіць. Пасля разам бывалі на забавах і ў знаёмых. Незаўважальна мы сталі парай. Мая вера, аднак, не дазваляла аддацца яму без шлюбу. Ён быў гатовы на ўсё. Мы пажаніліся.

У майго новага мужа быў дом, які пакінулі яму ў спадчыну нядаўна памерлыя бацькі, і там ён жыў. Жонка з дзецьмі засталася пасля разводу ў іхняй кватэры. Мы з сынам пераехалі да яго.

Як мне там падабалася! Быў вялікі агарод. Я насадзіла шмат кветак, пабудавалі альтанку. Цішыня, арамат. Я мыла, чысціла хату, усюды ставіла вазачкі з кветкамі. Сына памясцілі на „горцы", я яму там зрабіла ўтульны куточак. Працы каля дома было шмат. Я заўсёды знаходзіла сабе нейкі занятак, нешта абсталёўвала, упрыгожвала.

На жаль, праз нейкі час я заўважыла, што гэтыя мае старанні не прыносілі ніякіх эфектаў у нашым супольным жыцці. Муж лічыў, што ўсё гэта лішняе. Галоўнае — каб я была з ім, каб мы хадзілі, гулялі, бавіліся. Я пасля працы бегла хутчэй дахаты, а ён заставаўся на даўжэй, пасля былі нейкія сустрэчы з сябрамі і сяброўкамі, а яшчэ пазней пачаў вяртацца дахаты ўначы.

Даражэнькае Сэрцайка, я не дапускала да сабе думкі, што нешта ў нас псуецца. Лічыла, што ён стараецца ўсё ж зарабіць нейкі дадатковы грош (такая ў яго была прафесія, што мог). Не ўяўляла сабе, як можна было недаацэньваць таго, што раблю я для дома. Як толькі прыбягу, бывала, дахаты, так адразу пачынаю варыць і прыбіраць, каб усё было „на глянц", калі вернецца каханы муж. А яму ўсё нешта не падабалася.

Калі мы атрымалі новую кватэру, трэба было зрабіць там рамонт. Фактычна кватэра была куплена маімі бацькамі майму сыну. Яму ўжо было васемнаццаць гадоў, і мой муж усё паўтараў, што ён павінен, як на Захадзе, жыць у сваёй уласнай кватэры.

Муж кажа: „Дык вы з сынам ідзіце ў тую кватэру і рабіце там памалу рамонт. А я тым часам зраблю капітальны рамонт дома.

Я вырашыла, што мо і мае ён рацыю. Адлегласць, каб ездзіць, была вялікая. Будзем пакуль што з сынам, вырашыла я. Мы ўзяліся заканчваць унутранае афармленне новай кватэры. Муж пачаў рамонт дома.

У галаву мне не прыйшла думка, што ён хітраваў. Сказаў жа, што паведаміць мне, калі скончыцца рамонт, і тады я змагу вярнуцца да яго. А сустракаліся ўсё радзей. Два гады мінула, як не сустракаемся зусім. Так, быццам бы былі разведзеныя. Рамонт дома ідзе ўжо роўна чатыры гады, а я ўсё чакаю ў кватэры сына. Не ведаю ўжо нават, ці варта. А як ты думаеш, Сэрцайка?

**Тося**

Тося! Думаю, што нічога не будзе. Ён, бадай, сапраўды вырашыў пазбыцца і твайго сына, і цябе адным махам, ды ты і сама гэта адчуваеш... Бачыш жа, што ён перастаў нават цябе зводзіць, проста стараецца не трапіць табе на вочы.

Мужыку есці лепш не дай, посуду не памый, падлогі не замяці — толькі будзь да яго мілая, ласкай яго, хадзі з ім усюды — тады будзе добра.

**Сэрцайка**